Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ — АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

1 СТУДЗЕНЯ 1927 г.

№ 1 (26)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ



ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.



# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

## Частка неафіцыйная.

## 1. Інструкцыя Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ ВЫДАЧЫ АПАЛУ ШКОЛАМ, ДЗІЦЯЧЫМ ДАМОМ, ХАТАМ-ЧЫТАЛЬНЯМ І ІНШЫМ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫМ УСТАНОВАМ, А ТАКСАМА БАЛЬНІЦАМ, ДОКТАРСКІМ ВУЧАСТКАМ, ФЭЛЬЧАРСКІМ ПУНКТАМ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ.

1. Для забесьпячэньня сухім апалам школ, дзіцячых дамоў, хат-чытален і іншых культурна-асьветных устаноў, а таксама бальніц, доктарскіх вучасткаў і фэльчарскіх пунктаў, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях, выдаецца: у 1926 г. на бюджэтныя гады 1926-27 і 1927-28 дравяны лес уперад, а ў далейшыя гады ў разьмеры гадавое патрэбы.

2. У малалесных раёнах, дзе немагчыма задаволіць вышэй пералічаныя ўстановы дравяным апалам, абавязаць апошнія карыстацца торфавым апалам.

3. Загатоўка выдаваемага на дровы лесу робіцца ўстановаю, якая атрымлівае апал, але можа рабіцца і лясьніцтвам па ўзгадненьні з зацікаўленаю ўстановаю.

*Увага.* Калі будзе жаданьне карыстацца для загатоўкі дроў апаратам лясьніцтва, аб гэтым павінна быць пісьмова заяўлена лясьнічаму і кошт загатоўкі ўнесен яму не пазьней 1-га сьнежня.

4. У першую чаргу даецца валежнік, а пры недахваце яго—дравяны лес у чарговых лесасеках, а таксама ў парадку догляду за лесам; у апошнім выпадку (у парадку догляду за лесам) загатоўка робіцца толькі апаратам лясьніцтва.

5. Лес павінен выдавацца з самага пачатку васеньняе рубкі, гэта значыць з 1-га верасьня, для чаго мясцовыя органы Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя павінны даць свае заяўкі з вызначэньнем устаноў і колькасьці пячэй у кожнай з іх непасрэдна Акруговым Лясным Пададдзелам не пазьней 1-га жніўня, а апошнія накіроўваюць гэтыя заяўкі ў адпаведную Раённую Лясную Камісію для магчымага іх задаваленьня разам з іншымі мясцовымі патрэбамі.

6. Дравяны лес для зазначаных устаноў выдаецца па таксе 1924 г. і ня больш норм, устаноўленых пастановаю СНК за 13 мая 1924 г., гэта значыць па $4^1/_2$ куб. мэтры на адну печ, пры гэтым вывазка дроў павінна быць зроблена не пазьней лютага.

*Увага.* У бягучым годзе, паколькі выдаткі на апал не прадугледжаны зацьверджанымі каштарысамі, выдача дравянога лесу для сельскіх устаноў Народнага Камісарыяту Асьветы робіцца бясплатна з залікам кошту лесу ў рэспубліканскі фонд па льготнай і бясплатнай выдачы лесу.

7. У малалесных і сярэднялясістых мясцовасьцях дровы выдаюцца ў разьмеры ня менш, як 1,50 куб. мэтраў на печ, арэшта замяняецца адпаведнай колькасьцю лому, верхавін, гальля, пнёў.

8. Для забесьпячэньня сябе торфавым апалам мясцовыя органы Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя могуць уваходзіць членамі ў тарфяныя таварыствы або загатаўляць торф на ўмовах, зробленых з гэтымі таварыствамі.

Старшыня Эканамічнае Нарады
пры Савеце Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Адказны Сэкратар Эканамічнае Нарады
пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

22 лістапада 1926 г.
г. Менск

---

## 2. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ ПАРАДКУ НАЙМУ І СКАРЫСТАНЬНЯ РАБОЧАЙ СІЛЫ НА ЛЕСАЗАГАТОЎКАХ, СПЛАВЕ ЛЕСУ, ТОРФАРАСПРАЦОЎКАХ, ДАРОЖНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ, МЭЛІАРАЦЫЙНЫХ РАБОТАХ І ІНШЫХ МАСАВЫХ РАБОТАХ, ЯКІЯ ПРАВОДЗЯЦЦА Ў СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ.

Для ўрэгуляваньня найму рабочай сілы пры масавых сэзонных работах у сельскіх мясьцовасьцях, правадзімых дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі ўстановамі і прадпрыемствамі і скарыстаньня для гэтых работ беспрацоўных членаў саюзу ў сельскіх мясцовасьцях, батракоў, асоб, якія жывуць выключна па найму, і бядняцкага сялянства, Эканамічная Нарада БССР пастанаўляе:

1. Лічыць неабходным усю лесазагатоўчую работу падзяліць на загатоўку і вывазку з тым, каб работа па загатоўцы пераважна давалася беспрацоўным членам прафсаюзаў, батраком і сялянству, якое ня мае коней, у першую чаргу тым з іх, якія аб'яднаны ў арцелі, арганізаваныя па лініі саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, ці камітэтамі Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

2. На работу па вывазцы лесаматар'ялаў павінна прыцягвацца ў першую чаргу бядняцкае і серадняцкае сялянства, пры гэтым пераважнасьць даецца бяднейшаму сялянству, арганізаванаму ў арцелі.

3. На работу па сплаве лесаматар'ялу прыцягваюцца арцелі сплаўнікаў, арганізаваныя саюзам ці Камітэтам Узаемадапамогі і толькі пры адсутнасьці арцелі прыцягваецца астатняе сялянства.

4. Для дачы магчымасьці скарыстаньня на лесазагатоўках беспрацоўных членаў саюзу і батракоў, абавязаць установы і прадпрыемствы, якія вядуць лесазагатоўчыя апэрацыі, забясьпечыць батракоў і членаў саюзу неабходнымі інструмэнтамі Парадак выдачы і разьліку з рабочымі за інструмэнты, ўстанаўляецца працоўнымі ўмовамі.

5. Установы і прадпрыемствы якія вядуць лесазагатоўчыя апэрацыі, перад наборам патрэбнае колькасьці рабочае сілы, папершае, павінны ўзгадняць свой плян, парадак і месцы набору з Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі і Раённымі Камітэтамі саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, кіруючыся пры гэтым п. п. 1, 2 і 3 гэтага астановы.

6. Каб пазбавіцца канкурэнцыі паміж асобнымі загатоўчымі органамі ў зьвязку з наборам рабочых, неабходна раней зрабіць разьмеркаваньне рабочых паміж асобнымі лесазагатоўшчыкамі у раёнах, дзе яны набіраюцца, у межах тэй ці іншай адміністрацыйнай адзінкі, дзе вядуцца лесараспрацоўкі.

7. Набор рабочых на лесазагатоўкі з-за межаў БССР забараняецца. Гэты набор можа рабіцца толькі ў выключных выпадках і заўсёды з дазволу Народнага Камісарыяту Працы БССР і са згоды Цэнтральнага Праўленьня Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых.

8. Абавязаць установы і прадпрыемствы даваць у Н.К. Працы БССР да пачатку сэзонных работ арыентыровачныя зьвесткі аб кольказьці патрэбнай для распрацоўкі наёмнай сілы па кожнаму раёну асобна з вызначэньнем спэцыяльнасьці (катэгорыі рабочых-лесарубаў, возьнікаў, сплаўнікаў, пільшчыкаў і г. д.).

9. Умовы працы і зарплата на лесазагатоўчых работах рэгулююцца калектыўнымі ўмовамі, якія складаюцца лесазагатоўчымі органамі з Прафсаюзам сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Беларусі і працоўнымі ўмовамі на падставе існуючага законадаўства аб працы.

10. Даручыць Н.К. Працы БССР весьці падлік лішняе рабочае сілы ў сельскіх мясцовасьцях БССР, якая ня можа быць скарыстана ў межах БССР на масавых работах і зрабіць захады аб скарыстаньні гэтае рабочае сілы за межамі БССР.

11. Установы і прадпрыемствы, якія вядуць распрацоўку торфу, мэліарацыйныя работы і іншыя масавыя работы ў сельскіх мясцовасьцях, як: ачыстка чыгункі, рамонт дарог і інш., пры найме рабочае сілы павінны кіравацца правіламі, вызначанымі ў папярэдніх артыкулах гэтае пастановы, заўсёды даваць перавагу батракам і бедным сялянам, якія ня маюць коней, арганізаваным у арцелі па лініі Прафсаюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых ці Камітэтамі Ўзаемадапамогі.

Старшыня Эканамічнае Нарады
пры Савеце Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Адказны Сэкратар Эканамічнае Нарады
пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

30 лістапада 1926 г.
г. Менск.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ Ў ЖЫЦЬЦЕ ІНСТРУКЦЫІ АБ ПАРАДКУ ЎСТАНАЎЛЕНЬНЯ НОРМ ДЛЯ ЗЯМЕЛЬНЫХ ВУЧАСТКАЎ У ГАРАДОХ І МЯСТЭЧКАХ БССР.

*Акруговым Камунальным Аддзелам і Камунальна-дарожным часьцям Раённых Выканаўчых Камітэтаў.*

Далучаючы да гэтага „Інструкцыю аб устанаўленьні норм зямельных вучасткаў у гарадох і мястэчках БССР“, Народны Камісарыят Унутраных Спраў прапануе ў трохмесячны тэрмін з часу апублікаваньня гэтай інструкцыі у Бюлетэні СНК БССР распрацаваць

і апублікаваць паводле гэтай інструкцыі нормы сядзібна-будоўных і сельска-гаспадарчых вучасткаў.

Аб выкананьні паведаміце з прысылкай матар'ялаў, паводле артыкулаў 13 і 19 гэтай інструкцыі.

ДАДАТАК: Інструкцыя.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Начальнік Кіраўніцтва Камунальнай
Гаспадаркі НКУС **Г. Рубінштэйн.**

11 сьнежня 1926 г.
№ 328.

---

ДАДАТАК.

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Землеробства БССР

### АБ ПАРАДКУ ЎСТАНАЎЛЕНЬНЯ НОРМ ДЛЯ ЗЯМЕЛЬНЫХ ВУЧАСТКАЎ У ГАРАДОХ І МЯСТЭЧКАХ БССР.

У разьвіцьцё артыкулаў 12 и 24 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох, Народны Камісарыят Ўнутраных Спраў і Народны Камісарыят Землеробства выдаюць наступную іструкцыю аб парадку ўстанаўленьня норм зямельных вучасткаў у гарадох і мястэчках БССР.

### I. Нормы сядзібна-будоўных вучасткаў.

1. Гранічныя нормы сядзібна-будоўных вучасткаў устанаўляюцца найменшыя і найвышэйшыя.

2. Нормы сядзібна-будоўных вучасткаў павінны ўстанаўляцца ў залежнасьці ад патрабаваньняў санітарыі, бясьпечнасьці ад пажараў, існуючага разьмяшчэньня кварталаў у данным горадзе, альбо мястэчку, праэкту іх перапляваньня і праэкту дадатковай забудоўкі.

3. Нормы бываюць розныя ў розных зонах і раёнах гарадоў і мястэчак, у залежнасьці ад агнятрываласьці будынкаў: у зонах, дзе дапушчаецца толькі мураваная забудоўка, нормы вучасткаў могуць быць меншыя, чым у зонах, дзе дапушчаецца драўляная абароненая і драўляная неабароненая забудоўка.

*Увага.* Пад драўлянай абароненай будынінай разумеецца ўсякі будынак, у якім знадворныя сьцены абтынкаваны з абодвых бакоў, альбо абаронены незгаральнымі матар'яламі: цэглай, бэтонам і інш.

4. Пры вызначэньні норм сядзібна-будоўных вучасткаў трэба мець на ўвазе ня толькі патрэбы, якія неабходны для мэт будаўніцтва: плошчы, якія адводзяцца для будынкаў, разрываў паміж будынкамі і зямель, патрэбных для абслугоўваньня будынкаў (двары, месцы для выграбных ям і інш.), але трэба таксама прадугледзець неабходнасьць задаваленьня гаспадарчых і эстэтычных патрэб: адвод плошчы для аматарскіх агародаў і садоў (фруктовага, ягаднага, дэкаратыўнага).

5. Падробныя разьмеры сядзібна-будоўных вучасткаў азначаюцца праэктам перапляніраваньня даннага гораду або мястэчка, зацьверджаным у належным парадку. Форма і разьмеры вучасткаў паказваюцца на пляне. Пры адсутнасьці падобных праэктаў перапляніраваньня ўстанаўляюцца часовыя нормы, якія павінны задаволіць паказаныя вышэй патрэбы (артыкул 2 гэтай інструкцыі).

6. Для адводу сядзібна-будоўных вучасткаў пад забудоўку на незанятых землях устанаўляюцца ніжэй паказаныя найменшыя нормы.

7. Найменшы разьмер сядзібна-будоўнага вучастку на незанятых землях павінен быць для дому з аднэй кватэрай ня менш за 500 кв. мэтраў (111 кв. саж.), пры шырыні па вуліцы ня менш 20 мэтраў і глыбіні 25 мэтраў. Пры гэтым плошча забудоўкі ня можа перавышаць $1/3$ плошчы ўсяго вучастку. Пры доме з двумя кватэрамі дадаецца на другую кватэру 225 кв. мэтраў, а пры многакватэрным доме дадаецца звыш 725 кв. мэтр. на кожную кватэру звыш двух па 135 кв. мэтраў.

*Увага.* Пад аднэй кватэрай разумеецца плошча ў 25 кв. саж. па знадворнаму памеру, уключаючы і няжылую плошчу і плошчу сьцен.

8. Да паказаных у папярэдніх артыкулах норм дадаецца пры доме да 5-ці кватэр ад 20% да 30% агульнай колькасьці зямлі вучастку на зялёныя плошчы (агарод, сад). Пры домах ад 5-ці да 10-ці кватэр дадаецца ад 5-ці да 20-ці процантаў, а звыш 10-ці кватэр надбаўка на зялёную плошчу ня робіцца і гэтая плошча ўключаецца ў агульную плошчу вучастку, якая вылічана на падставе папярэдняга артыкулу.

9. Пры вылічэньні мінімальнай нормы вучастку пры ўсякіх выпадках трэба мець на ўвазе, каб незабудаваная плошча вучастку была ня менш двукратнай плошчы, якая праэктавана для забудоўкі.

10. У залежнасьці ад колькасьці насельніцтва, вялічыні зямельнага запасу і санітарна-гігіэнічных умоў даннага гораду альбо мястэчка мясцовыя гарсаветы, а дзе такіх няма -раённыя выканаўчыя камітэты павінны ўстанавіць найвышэйшыя нормы, якія лічацца гранічнымі, звыш толькі якіх магчыма забраньне лішкаў у парадку палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох.

11. Паказаныя ў папярэдніх артыкулах найменшыя і найвышэйшыя нормы могуць быць пашыраны і на кварталы існуючай забудоўкі з тым, каб сядзібна-будоўныя вучасткі, у якіх плошча будзе ніжэй паказаных найменшых норм, прыводзіліся ў адпаведнасьць з гэтымі нормамі за рахунак сумежных вучасткаў, якія маюць лішкі супроць найвышэйшых норм, паступова па меры старэньня знаходзячыхся на тых вучастках будынкаў. Пры гэтым павінна зрабіць праэкт перапляніраваньня вучасткаў у парадку, як гэта ўстаноўлена асобнымі правіламі пляніраваньня гарадоў, выдаваемымі Народным Камісарыятым Унутраных Спраў.

12. Нормы сядзібна-будоўных вучасткаў распрацоўваюцца органамі камунальнай гаспадаркі і зацьвярджаюцца Прэзыдыумамі гарадзкіх і местачковых саветаў, а дзе іх няма—раённымі выканаўчымі камітэтамі.

13. Зацьверджаныя Прэзыдыумамі гарадзкіх і местачковых саветаў, альбо раённымі выканаўчымі камітэтамі нормы сядзібна-будоўных вучасткаў уводзяцца ў дзейнасьць з тэрміну іх апублікаваньня і прадстаўляюцца ў Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў да ведама.

## II. Нормы вучасткаў сельска-гаспадарчага карыстаньня.

14. Гранічныя нормы зямельных удоб'яў сельска-гаспадарчага прызначэньня (артыкул 24 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох), а таксама і парадак надзяленьня ўстанаўляюцца на дакладнай аснове абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства № 17/31, разасланага Акруговым Зямельным Аддзелам 4-га красавіка 1925 г. за № 31/15566. Пры гэтым: а) даны горад альбо мястэчка адносіцца да таго сельска-гаспадарчага раёну, у граніцах якога ён разьмешчан, паводле разьмеркаваньня раёнаў, дaданага пры абежніку; тыя ж гарады і мястэчкі, якія не ўваходзяць у раён, прылічаюцца да таго з суседніх раёнаў, у якім устаноўлена ніжэйшая норма зямельнага забесьпячэньня; б) мясцовыя саветы альбо раённыя выканаўчыя камітэты могуць падвышаць альбо зьніжаць паказаныя нормы, а таксама і каэфіцыэнты замены адных удоб'яў іншымі ў граніцах, якія паказаны ў артыкуле 6-ым памянёнага вышэй абежніку, у залежнасьці ад умоў, выкладзеных у артыкуле 24-ым Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох.

15. Пры вызначэньні разьмеру гранічных норм трэба звароч-ваць увагу на прыродныя ўласьцівасьці зямель: а) мэханічны склад удоб'яў і разьмяшчэньне суглінкаў і супесяй (сугліністыя землі цэняцца вышэй за пясчаныя і супясчаныя); б) ступень ападзоленасьці, якая сьведчыць аб абядненьні глебы спажыўнымі матэрыямі; в) рэльеф мясцовасьці (узгорныя мясцовасьці цэняцца ніжэй нізкіх); г) вільготнасьць глебы.

16. Для кожнага гораду альбо мястэчка ўстанаўляюцца максімальныя і мінімальныя нормы. Выпрацаваныя паводле папярэдніх артыкулаў нормы лічацца максімальнымі, мінімальныя нормы ўстанаўляюцца ў разьмеры палавіны максімальных.

17. Нормы ўстанаўляюцца толькі для вучасткаў працоўнага карыстаньня. Землі, здаваемыя ў арэнду з вольнага фонду, не падлягаюць ніякім нормам і скарыстоўваюцца на асновах, выкладзеных у асобных інструкцыях, якія выдаюцца ў парадку артыкулу 25 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох.

18. Парадак распрацоўкі норм для зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня, разгляд і зацьверджаньне устанаўляюцца такія-ж, як для сядзібна-будоўных вучасткаў. Пры гэтым у папярэдняй падрыхтоўцы прымае ўдзел прадстаўнік ад зямельных органаў Народнага Камісарыяту Земляробства.

19. Зацьверджаныя паводле гэтых правіл разьмеры гранічных норм зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня ўваходзяць у дзейнасьць з тэрміну іх апублікаваньня і са ўсімі матар'яламі, якія служылі асновай для выпрацоўкі норм, накіроўваюцца ў Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў да ведама.

20. Ужываньне зацьверджаных норм зямель сельска-гаспадарчага карыстаньня магчыма толькі пры земляўпарадкаваньні апошніх.

21. Пры земляўпарадкаваньні надзяленьне праводзіцца ў адпаведнасьці з вымаганьнямі абежнікаў Народнага Камісарыяту Земляробства за 4/IV—1925 г. № 17/31, за 20—22/VII—1926 г. № 5 і артыкулу 5-га абежніку за 22/VII-1926 г. № 18/3 у наступным парадку: а) многазямельным дваром, у залежнасьці ад колькасьці працоўных адзінак у гаспадарцы (п. 5 абежніку НКЗ № 17/31), пакідаецца максімальная норма; б) малазямельныя і безьзямельныя надзяляюцца да мінімальнай нормы; в) дваром, маючым зямлі ў колькасьці ніжэй максі-

мальнай і вышэй мінімальнай нормы, пакідаецца фактычнае карыстаньне.

22. Для культурна-паказальных гаспадарак, маючых грамадзкае прызначэньне і належна зарэгістраваных у парадку асобнай інструкцыі, выдаваемай Народным Камісарыятам Унутраных Спраў па ўзгадненьню з Народным Камісарыятам Земляробства, гранічныя нормы па заключэньнях органаў камунальнай гаспадаркі, узгодненых з Акруговымі Зямельнымі Аддзеламі, могуць быць падвышаны гарадзкімі і местачковымі саветамі, альбо раённымі выканаўчымі камітэтамі.

23. Усе зьмены і інструкцыі, якія ў будучым будуць выдавацца Народным Камісарыятам Земляробства па пытаньню аб гранічных нормах і ўжываньню іх для земляробчага насяленьня, маюць абавязковую сілу і для зямель працоўнага карыстаньня ў гарадзкой мяжы.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Начальнік Кіраўніцтва Камунальнай
Гаспадаркі НКУС **Г. Рубінштэйн.**

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй НКЗ **А. Шычко.**

---

Выданы ў парадку артыкулу 13 і ў разьвіцьце п п. „А“ і „Б“ артыкулу 12 Вэгэрынарнага Статуту БССР.

## 5. Правілы Народных Камісарыятаў Земляробства, Аховы Здароўя і Унутраных Спраў БССР

ПА АДЧЫНЕНЬНЮ, ЗБУДАВАНЬНЮ І ЎТРЫМАНЬНЮ СКЛАДАЎ СЫРЫХ ЖЫВЁЛАВЫХ ПРАДУКТАЎ І ЗАКЛАДАЎ ДЛЯ ПЕРАПРАЦОЎКІ ІХ І ПА ПЕРАВОЗЦЫ ГЭТЫХ ПРАДУКТАЎ ПА АБШАРУ БССР.

§ 1. Да сырых жывёлавых прадуктаў адносяцца; мясныя тушы, іх часьціны і органы, салёнае мяса, нятопленае сала, пляхі, кішкі, мачавыя пузыры, нявырабленыя скуры, кроў, косьці, рогі, капыты, воўна, волас, шэрсьць, грыва, хвасты, пер‘я і пух.

*Увага.* Парадак хаваньня, апрацоўкі і перавозкі мяса прызначанага да ўжываньня ў страву, рэгулюецца асобна выдаваемымі органамі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнага Камісарыяту Земляробства правіламі.

2. Збудаваньне закладаў для апрацоўкі сырых жывёлавых прадуктаў, а роўна складаў для іх хаваньня дапушчаецца толькі за мяжой жылых будынкаў і ня бліжэй 200 мэтраў (100 сажняў) ад іх паводдаль ад вадазбораў, папасаў і праезджых дарог, па асобнаму кожны раз дазволу Акруговага Аддзелу Аховы Здароўя, выдаваемаму на падставе заключэньня Камісіі, якая складаецца з прадстаўнікоў мэдыка-санітарнай, вэтэрынарнай арганізацый і інспэкцыі аховы працы,

пры чым аб усіх выдадзеных дазволах на адчыненьне памянёных закладаў і складаў Акруговы Аддзел Аховы Здароўя тэрмінова паведамляе ў вэтэрынарны Пададдзел Акруговага Зямельнага Аддзелу.

*Увага.* Заклады і склады, дзейныя да часу выданьня гэтых правіл, падлягаюць падрабязнаму дасьледаваньню камісіяй у складзе, згодна § 2, і не адпаведаючыя патрабаваньням гэтых правіл, па заключэньню камісіі, зачыняюцца—заклады па мінуласьці тэрміну неабходнага для сканчэньня апрацоўкі заложанага ў іх сыр'я і склады—у двухтыднёвы тэрмін.

§ 3. Заклады і склады, у якіх атрымліваюцца плыўкія фузы і прамыўныя воды, не павінны будавацца на берагох рэк, крыніц, сажалак і інш. вадазбораў, а роўна і ў непасрэднай блізкасьці ад іх (гл. § 2) Яны павінны забясьпечвацца спэцыяльнымі ўстаноўкамі, якія дадуць здавальняючыя гарантыі супроць забрудненьня акружаючай мясцовасьці і бліжэйшых вадазбораў фузам і сточнымі водамі.

§ 4. Заклады для апрацоўкі жывёлавага сыр'я і склады для хаваньня яго павінны будавацца толькі ў зачыненых памяшканьнях з непрамакаемай падлогай. Двары іх павінны быць роўныя і непавінны мець скатаў да ракі ці другога вадазбору і абнесены шчыльным плотам.

§ 5. Ва дварох закладаў і складаў з дамовай жывёлы могуць утрымлівацца толькі коні пры ўмове іх ізаляванага разьмяшчэньня, паскольк гэтая жывёла зьяўляецца неабходнаю для даннага прадпрыемства.

§ 6. Прамыўка і мыцьцё сырых жывёлавых прадуктаў павінна рабіцца толькі ў спэцыяльна пабудованых рэзэрвуарах. Спуск прамыўных вод з іх у вадазборы грамадзк га карыстаньня, а таксама на папасы, сенажаці і палеткі без спэцыяльнай апрацоўкі не дазваляецца.

§ 7. Прасушка сырых жывёлавых прадуктаў, патрабуемая тэхнікай вытворчасьці, дапушчаецца толькі ў памяшканьнях ці ў спэцыяльна адведзеных мясцох з выкананьнем §§ 2 і 4 гэтых правіл.

§ 8. Фузы вытворчасьці не павінны звальвацца каля закладаў ці ва дварох іх, але павінны зьбірацца ў асобныя непрамакаемыя з шчыльнымі крышкамі прыёмнікі, пабудаванныя ва двары закладаў, адкуль павінны рэгулярна вывозіцца на спэцыяльна адведзеныя месцы ці спальвацца.

§ 9. Заклады для апрацоўкі жывёлавых прадуктаў і склады для хаваньня іх, а таксама і двары павінны ўтрымлівацца ў поўнай чыстаце, пры чым у гарадох такія двары павінны быць абавязкова забрукаваны.

§ 10. Пры кожным закладзе і складзе, куды паступаюць сырыя жывёлавыя прадукты, уласьнікі гэтых закладаў і складаў ці асобы іх замяняючыя, павінны весьці сшытак запісу вынікаў санітарнага і вэтэрынарна-санітарнага бягучага нагляду і асобую кнігу для запісу зьвестак аб сырых жывёлавых прадуктах, ідучых у апрацоўку ці для хаваньня. У кнігу павінны запісвацца: 1) год, месяц і дзень паступленьня кожнай партыі прадуктаў; 2) род і гатунак прадуктаў; 3) колькасьць іх: мераю, вагою, лікам штук ці месц і род пакаваньня; 4) месца загатоўкі; 5) дакумэнт, пры якім прадукт паступіў, 6) вынікі вэтэрынарна-санітарнага дасьледаваньня прадуктаў і меры, прынятыя ў адносінах тых, якія паступілі з мясцовасьцяй небясьпечных па заразьлівых хваробах дамовай жывёлы, так роўна і тых падазроных прадуктаў, якія пры дасьледаваньні аказваліся небясьпечнымі ў ад-

носінах зазначаных хвароб. Кніга гэта павінна быць прад'яўлена асобам санітарнага і вэтэрынарнага нагляду па першаму іх патрабаваньню.

*Увага.* Санітарны сшытак для запісу вынікаў бягучага санітарнага нагляду павінен быць складзен па форме прынятай Акруговым Аддзелам Аховы Здароўя.

§ 11. Вываз з гарадоў, мястэчак і селішч БССР, а таксама і прывоз у іх сырых жывёлавых прадуктаў можа рабіцца бесьперашкодна толькі пры ўмове, што ў мясцовасьці, адкуль вывозяцца прадукты, ня існуе на дамовай жывёле якое-небудзь заразьлівае хваробы. Уласьнікі і адміністрацыя прадпрыемстваў, якія прывозяць і вывозяць прадукты, абавязаны мець ад мясцовага вэтэрынарнага нагляду для кожнай партыі прадуктаў адпаведнае пасьведчаньне аб тым, што прадукты вывезены з свабоднай па заразьлівых хваробах жывёлы мясцовасьці.

§ 12. Вываз сырых жывёлавых прадуктаў з мясцовасьцяй, дзе існуюць на жывёле заразьлівыя хваробы, ці з месц, пагражаемых па гэтых хваробах, можа рабіцца ня інакш, як усякі раз па атрыманьні ад вэтэрынарнага нагляду дазволаў на вываз у кожным асобным выпадку.

§ 13. Пасьведчаньні на права вывазу прадуктаў павінны знаходзіцца ў асоб, робячых перавозку, і прад'яўляцца па першаму патрабаваньню санітарнага і вэтэрынарнага нагляду і міліцыі на ўсім шляху перавозкі.

§ 14. Сырыя жывёлавыя прадукты, вывезеныя без вэтэрынарнага пасьведчаньня, павінны падлягаць обеззаражваньню на месцы па паказаньню вэтэрынарнага нагляду і за рахунак уласьніка.

§ 15. Сырыя жывёлавыя прадукты, вывезеныя без вэтэрынарнага пасьведчаньня з пунктаў існаваньня чумы буйнай рагатай жывёлы, сібірскай язвы, і авечай воспы, падлягаюць безадкладнаму зьнішчэньню. Данная мера распаўсюджваецца і на прадукты, вывезеныя з мясцовасьцяй, абвешчаных пагражаемымі па зазначаных хваробах, калі яны (прадукты) маюць, па заключэньню вэтэрынарнага нагляду, адзнакі, паказваючыя на пахаджэньне іх ад жывёлы хворай якойнебудзь з пералічаных хвароб.

§ 16. У выпадках, калі памянёныя ў §§ 11 і 12 пасьведчаньні, маюцца толькі на частку переваэімых прадуктаў, правілы выкладзеныя ў §§ 14 і 15, распаўсюджваюцца на ўсю партыю.

§ 17. У тых выпадках, калі прывезеныя сырыя жывёлавыя прадукты прызначаюцца для продажу, уласьнікі іх абавязаны атрымаць дазвол на продаж іх ад вэтэрынарнага нагляду.

§ 18. Пры перавозцы сырых жывёлавых прадуктаў павінны быць выпаўнены наступныя ўмовы:

а) калёсы для перавозкі жывёлавага сыр'я павінны быць пабудаваны такім чынам, каб з іх не маглі выпадаць па дарозе цьвердыя часьці перавазімых прадактаў ці выцякаць плыўкасьці, а таксама павінны быць лёгка абчышчаемы і ў выпадку патрэбы дэзынфэкуемы;

б) перавазімыя косьці, рогі, капыты павінны быць старанна абчышчаны ад мясных часьцей, сухажыльляў і скуры: воўна, валасы, шэрсьць і пер'я павінны быць запакаваны ў моцныя мяшкі ці цюкі;

в) ня выробленыя скуры павінны перавозіцца ў шчыльных цюках, сырыя скуры—запакованымі ў такія-ж скуры шэрсьцю наверх, аўчыны—абавязкова сухімі і зашытымі ў рагожы;

г) неравазімыя па грунтавых шляхох прадукты, калі па свайму становішчу яны не патрабуюць запакоўкі, павінны быць укрыты і зьвязаны зьверху і са ўсіх бакоў палатнянымі, брэзэнтавымі ці іншымі прыгатаванымі з шчыльнай тканіны пакрываламі;

д) вазы з сырымі жывёлавымі прадуктамі пры прыпынках у дарозе не павінны разьмяшчацца ва дварох, у якіх знаходзіцца дамовая жывёла.

*Увага.* Асобы, перавозячыя паштучна дробныя прадукты, як напрыклад, зарэзанага барана, парася, аўчыну і г. д., вызваляюцца ад пунктуальнага выкананьня п. п. „г“ і „д“ гэтага параграфу.

§ 19. Назіраньне за выкананьнем гэтых правіл і прыцягненьне да адказнасьці асоб, вінаватых у парушэньні іх, ускладаецца на мэдыка-санітарны і вэтэрынарны нагляд і органы міліцыі.

§ 0. Асобы, вінаватыя ў парушэньні выкладзеных вышэй правіл, падлягаюць адказнасьці ў парадку артыкулаў 219 і 86 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Начальнік Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ БССР **П. Серпаў.**

6 сьнежня 1926 г.

---

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ СПЫНЕНЬНІ ПЕРАДАЧЫ ПЛОШЧАЎ У ЗЯМЕЛЬНЫ ФОНД.

*Акруговым Зямельным Аддзелам БССР.*

Прымаючы пад увагу:

1) што Народным Камісарыятам Земляробства перадана значная лясная плошча ў зямельны фонд для мэтаў землянадзяленьня і ўпарадкаваньня межаў лясного фонду,

2) што ў сучасны момант адчуваецца значны недахоп у драўніне, атрымліваемай з гадавое лесасекі на задавальненьне патрэб насяленьня і прамысловасьці і

3) што далейшая перадача шкодна адаб'ецца як на памянёным задавальненьні патрэб у драўніне, так і на лясным прыбытку Дзяржавы,

Народны Камісарыят Земляробства прапануе далейшую перадачу лясных плошчаў у земельны фонд спыніць і разглядаць толькі тыя пытаньні, па якіх ужо зроблена асобнае распараджэньне Камісіі Народнага Камісарыяту Земляробства ці Лясного Кіраўніцтва НКЗ.

На далейшы час перадача нязначных плошчаў з ляснога фонду ў зямельны, ці наадварот—можа рабіцца толькі ў парадку лёсаўпарадкаваньня ці земляўпарадкаваньня. Гэты абежнік выдаецца ўдадатак да абежніку № 31/5761 за 8/III 1926 г. Ляснога Кіраўніцтва НКЗ.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Час. вык. аб. Начальніка
Ляснога Кіраўніцтва НКЗ **Я. Лунскі.**

10 сьнежня 1926 г.
№ 15.

---

## 7. Абежнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй НКЗ БССР

АБ НАГЛЯДЗЕ ЗА СКЛАДАНЬНЕМ ПАДВОРНЫХ СЬПІСКАЎ, ПАВОДЛЕ ПРАВІЛ, ЗАЦЬВЕРДЖАНЫХ 17-га ВЕРАСЬНЯ 1926 г.

*Акруговым Зямельным Аддзелам і Раённым Выканаўчым Камітэтам БССР.*

Пасылаючы пры гэтым адзін экзэмпляр правіл вядзеньня падворных сьпіскаў, Кіраўмэліазем прапануе ўсім Акруговым Зямельным Аддзелам наступнае:

1. Кнігі для падворных сьпіскаў безадкладна не пазьней 7-мі дзён па атрыманьні разаслаць Раённым Выканаўчым Камітэтам па ліку сельсаветаў у кожным раёне.

2. Земляўпарадчаму Пададдзелу зрабіць належныя захады да арганізацыі складаньня падворных сьпіскаў як шляхам пісьмовага інструктаваньня раёнаў, так і шляхам выезду на месцы адміністрацыйна-тэхнічных работнікаў, у прыватнасьці інспэктара зямельнай рэгістрацыі.

3. Раённыя Выканаўчыя Камітэты не пазьней 3-х дзён па атрыманьні кніг з Акруговага Зямельнага Аддзелу прапячатваюць іх, падпісваюць і рассылаюць у сельсаветы з належным тлумачэньнем аб парадку правядзеньня работы.

4. Раённы Выканаўчы Камітэт праз сваіх прадстаўнікоў павінен у працягу сьнежня месяца праінструктаваць усе сельсаветы і, калі патрэбуецца, дапамагчы запоўніць сьпіскі па першаму паселішчнаму пункту.

5. Асаблівую ўвагу на гэту работу павінны зьвярнуць раённыя земляўпарадчыкі, бо падворныя сьпіскі, зьяўляючыся першапачатковымі дапаможнымі актамі зямельнай рэгістрацыі, будуць у далейшым служыць асновай для работы раённага земляўпарадчыка па зямельнаму вучоту, а таксама і для складаньня пасямейных сьпіскаў пры падрыхтоўцы земляўпарадчых спраў. Пагэтаму кіраваньне работай сельсаветаў у гэтым пытаньні павінна зьявіцца аднэй з галоўнейшых задач раённага земляўпарадчыка ў працягу бягучай зімы.

6. Раённыя Выканаўчыя Камітэты і земляўпарадчыкі павінны кожны месяц інфармаваць Акруговыя Зямельныя Аддзелы, а апошнія—Кіраўмэліазем аб ходзе работ па складаньню падворных сьпіскаў і аб тым, якія захады неабходна ўжыць для ліквідацыі недарэчнасьцяй, калі яны будуць.

7. Разасланыя пры адносьніку 2/XI—1926 г. за № 28449 бляньі штогодняга вучоту, павінны быць разасланы Акруговымі Зямельным Аддзеламі ў Раен. Выкан. Камітэты, а апошнімі ў сельсаветы разам з кнігамі па ліку паселішчных пунктаў, для скарыстаньня, паводле арт. 11 і 12 правіл.

8. Акруговыя Зямельныя Аддзелы павінны паведаміць Кіраўмэліязем аб рассылцы кніг і блянак у раёны і далей прасачыць за своечасовай рассылкай Раён. Выкан. К-амі ў Сельсаветы. Таксама не пазьней 1-га студзеня 1927 г. Акруговыя Зямельныя Аддзелы павінны паведаміць Кіраўмэліязем аб тым, колькі кніг трэба яшчэ дабавіць да разасланых і пажаданы разьмер кніг.

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліярацыі і Дзяржаўных Зямельных
Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко.**

Нам. Заг. Аддзелу Земляўпарадкаваньня **М. Струкаў.**

10—11 сьнежня 1926 г.
№ 3з/31339.

---

ДАДАТАК.

## Правілы вядзеньня падворных сьпіскаў у сельсаветах БССР.

Гэтыя правілы выдаюцца на падставе 70-га артыкулу Зямельнага Кодэксу БССР.

1. Складаньне падворных сьпіскаў павінна быць зроблена па ўсіх сельсаветах Рэспублікі ў працягу зімовага пэрыяду 1926-27 г. і закончана не пазьней 15-га красавіка 1927 г.

2. Работы па складаньню падворных сьпіскаў выконваюцца сіламі сельсаветаў пад непасрэдным кіраўніцтвам раённых выканаўчых камітэтаў.

3. Для кожнага сельсавету заводзіцца асобная кніга, якая прапячатваецца пячаткай Раённага Выканаўчага Камітэту і замацоўваецца подпісамі старшыні і сэкратара. Для кожнага паселішчнага пункту адводзіцца патрэбны лік аркушаў. Для кожнага двара адводзіцца ўся левая і правая старонкі кнігі.

*Увага.* Калі аднэй кнігі для ўсяго сельсавету будзе мала, то заводзіцца другая кніга пад назвай „Часьць 2-ая".

4. У падворныя сьпіскі ўключаюцца ўсе без выключэньня самастойныя двары, якія знаходзяцца ў адміністрацыйных межах даннага сельсавету і вядуць сельскую гаспадарку.

5. Складаньне падворных сьпіскаў адбываецца на грунце плянавых і іншых дакумэнтальных данных, а ў выпадку адсутнасьці тых і другіх—шляхам слоўнага апытаньня саміх землякарыстальнікаў, паказаньні якіх правяраюцца сельсаветам па матар'ялах, якія ёсьць у распараджэньні апошняга, прычым у самым сьпіску (гр. 10) робіцца адзнака аб тых матар'ялах альбо слоўных заявах, на падставе якіх зроблен запіс у кнігу.

6. Двары заносяцца ў кнігу ў тым парадку, у якім які знаходзяцца ў самай вёсцы.

7. Падворныя сьпіскі па скончэньні складаньня іх падпісваюцца гаспадаром кожнага двара (гр. 32-я), якому тут-жа тлумачыцца аб

абавязку ў далейшым аб усіх адбыўшыхся зьменах у першапачатковых запісах зараз-жа даводзіць да ведама сельсавету. Апошні-ж ў сваю чаргу не вызваляецца ад адказнасьці за своечасовае папраўленьне сьпіскаў.

8. Пасьля сканчэньня першапачатковага складаньня сьпіскаў, апошнія правяраюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі. Праверка гэта адбываецца на грунце матар'ялаў, якія маюцца ў Раённым Выканаўчым Камітэце і сельсавеце, на агульных сходах сялян даннай вёскі, не пазьней тэрміну, прэдугледжанага п. 1-м гэтых правіл.

9. Падворныя сьпіскі маюць 32 графы, якія запаўняюцца наступным парадкам:

а) у 1-ай графе адзначаецца чарговы нумар запісу двара ў кнігу;

б) у 2-й графе пішацца прозьвішча, імя і імя бацькі гаспадара альбо апякуна; калі ў складзе двара ёсьць толькі малалетнія і над імі устаноўлена апека, у такіх выпадках неабходна адзначаць месцажыцельства апякуна.

в) у графе 3-й адзначаецца час і спосаб утвареньня гаспадаркі, напр., шляхам сямейнага падзелу, быўшы батрак, ці іншы безьзямельны, надзелены зямлёю, і інш. Гэтая графа не запаўняецца для тых гаспадарак, якія існуюць да моманту першапачатковага запаўненьня сьпіскаў; адносіцца яна толькі да тых двароў, якія будуць створаны ў пасьлядоўны пэрыяд, прычым, калі гаспадарка стварылася ў выніку сямейнага падзелу, то ў гэтай графе паказваецца нумар тэй гаспадаркі, з якой выдзялілася данная;

г) у графе 4-й зьмяшчаецца чарговы нумар членаў сям'і двара, прычым наступны за гаспадаром член двара запісваецца пад № 2-м і г. д.;

д) у графе 5-й адзначаецца прозьвішча, імя і імя бацькі кожнага члена двара. Сюды запісваюцца ўсе члены двара, хоць-бы часова і адсутнічалі з гаспадаркі; не запісваюцца ў складзе даннага двара тыя, што выдзяліліся з складу яго альбо вышлі зусім па іншых прычынах; у гэтым пытаньні трэба кіравацца артыкулам 16-м Зямельнага Кодэксу;

е) у графе 6-й адзначаюцца адносіны членаў двара да гаспадара, напр.: брат, бацька, маці, сын, дачка і г. д.;

ж) у графе 7-й адзначаецца год нараджэньня кожнага члена двара, у тым ліку і гаспадара;

з) у графе 8-й адзначаюцца зьвесткі аб тым, куды, па якой прычыне і калі выбыў са складу двара альбо прыбыў у яго склад; вышаўшыя зусім альбо выдзеленыя да завядзеньня падворных спіскаў у складзе даннага двара не паказваюцца;

і) у графе 9-й адзначаецца час рэгістрацыі землякарыстаньня альбо адбыўшыхся ў ім зьмен; для гаспадарак, якія існуюць да часу запаўненьня сьпіскаў, гэта графа запаўняецца толькі пры занясеньні зьмен, якія адбудуцца ў далейшыя часы; калі з даннай гаспадаркі выдзеліцца новая, то ў гэтай графе адзначаецца, за якім нумарам новая гаспадарка занесена ў сьпісак;

к) у графе 10-й паказваецца, на падставе якіх данных і дакумэнтаў запісаны зьвесткі аб землякарыстаньні двара, як пры першапачатковым запісу, так і пры занясеньні адбыўшыхся зьмен;

л) у графах 11, 12, 13, 14, 15, 16 і 17 паказваецца плошча землякарыстаньня двара па ўжытках у дзесяцінах, прычым у гэтыя графы запісваецца толькі тая зямля, якая знаходзіцца ў асобным карыстаньні двара; зьвесткі-ж аб землях агульнага карыстаньня па-

казваюцца па целым паселішчным пункце ў пачатку запісу двароў даннага пункту, згодна паказаньняў і па форме, прадугледжанай у п. 11 гэтых правіл;

м) у графе 18-й адзначаецца форма землякарыстаньня двара;

н) у графах 19—22-й паказваюцца зьвесткі аб тых землях, якія арандуюцца дваром на старане, пры чым, у графах 19, 20 і 21 й паказваецца плошча арандуемай зямлі ў дзесяцінах па ўжытках, а ў графе 22-й паказваецца пачатковы і канчатковы тэрмін арэнды;

о) у графах 23—26-й паказваюцца зьвесткі аб землях, якія гаспадарка здае ў арэнду, адпаведна запаўненьню граф 19—22-й;

п) у графе 27-й падрабязна адзначаецца, ад каго зямля бярэцца, альбо каму здаецца ў арэнду і нумар рэгістрацыйнага пасьведчаньня раённага выканаўчага камітэту;

р) у графах 28 і 29-й адзначаюцца зьвесткі аб будынках двара, жылых і няжылых, прычым, калі тыя і другія аб'яднаны пад аднэй страхой, то ў 28-ю графу запісваюцца хата і сені, а ўсе іншыя паказваюцца ў графе 29-й;

с) у графах 30-й і 31-й адзначаюцца данныя аб колькасьці рабочых коней старэй за 3 гады і кароў старэй за 2 гады;

т) у графе 32-й гаспадар альбо асоба, якая замяняе яго, расьпісваецца ў тым, што паказаныя ў падворных сьпісках зьвесткі аб яго гаспадарцы адпавядаюць сапраўднасьці.

10. Пасьля кожнай рэгістрацыі сямейнага падзелу альбо ўмовы аб працоўнай арэндзе зямель раённы выканаўчы камітэт пасылае выпіску з рэгістрацыйнай кнігі сельсавету для адпаведных адзнак у падворным сьпіску. У выпадку правядзеньня сямейнага падзелу, сельсавет запісвае выдзеленую гаспадарку на новую старонку з выкананьнем патрабаваньняў п. п. „в“ і „і“ арт. 9 гэтых правіл.

11. Па сканчэньні першапачатковай рэгістрацыі, а таксама кожны год на 1-е красавіка сельсавет на загалоўнай старонцы кожнага паселішчнага пункту запісвае агульныя сумарныя зьвесткі па паселішчу аб колькасьці двароў, насельнасьці, зямлі ў асабістым карыстаньні двароў, а таксама плошчу агульнага карыстаньня.

12. Форма загалоўнай старонкі, якая дадаецца да гэтых правіл, наклейваецца перад запісам кожнага паселішчнага пункту. Зьвесткі ў гэтую форму запісваюцца кожны год з прыняцьцем пад увагу ўсіх зьмен, якія адбыліся на працягу году.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька**.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР **Е. Кроль**.

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных
Маемасьцяй БССР **А. Шышко**.

17 верасьня 1926 г.
№ 22/3 з.

ДАДАТАК.

1. Чарговы №
2. Прозьвішча, імя і імя па бацьку гаспадара альбо апякуна (у апошнім выпадку паказаць, дзе ён жыве, калі і кім прызначан)
3. Час (год) і спосаб стварэньня гаспадаркі (разьдзел, б. батрак, прышоў са старавы і інш) Калі гаспадарка стварылася шляхам падзелу, то паказаць № тэй гаспадаркі, з якой яна выдзелілася

## НАСЕЛЬНАСЬЦЬ ДВАРА

4. Чарговы № кожнага члена сям'і двара
5. Прозьвішча, імя і імя па бацьку членаў сям'і (уключаючы малалетніх і часова адсутнічаючых і выключаючы вышаўшых зусім зскладу сям'і; арт. 16 Зям. Кодэксу)
6. Адносіны да гаспадара. бацька, сын, брат, унук, маці, жонка, дачка, сястра і г. д.
7. Год нараджэньня члена сям'і (таксама і гаспадара)
8. Адзнакі аб прыбыцьці, часовай адсутнасьці, ці выбыцьці з складу сям'і (паказаць час і прычыну прыбыцьця і выбыцьця, месца жыцельства ў адлучцы і чым займаецца)

## ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЕ ДВАРА

9. Час (год, месяц і дзень) правядзеньня вучоту землякарыстаньня і рэгістрацыі адбыўшыхся зьмен
10. На падставе якіх дакумэнтаў і інш данных запісаны зьвесткі аб разьмеры і зьменах землякарыстаньня двара, з паказаньнем прычын, з за якіх адбыліся зьмены

### Лік дзесяцін зямлі.

11. Сядзібы
12. Пахаці
13. Сенажаці
14. Іншай выгоднай
15. Разам выгоднай
16. Нявыгоднай
17. Усяго

18. Форма землякарыстаньня [цераспалосная, хутарская, адрубная, таварыская]

### Арэнда зямлі

Плошча зямлі, якую двор бярэ ў арэнду
19. Пахаці
20. Сенажаці
21. Іншай

22. Тэрмін арэнды: год, месяц і дзень пачатку і канца арэнды

Плошча зямлі, зданай у арэнду
23. Пахаці
24. Сенажаці
25. Іншай

26. Тэрмін арэнды: год, месяц і дзень пачатку і канца здачы зямлі ў арэнду
27. Ад каго арандуе, ці каму здае зямлю ў арэнду. На падставе якіх дакумэнтаў адбываецца арэнда [№ і дата рэгістрацыйнага пасьведчаньня райвыканкому]

### Лік будынкаў у гаспадарцы

28. Жылых
29. Няжылых

### Лік жывёлы ў гаспадарцы

30. Рабочых коней
31. Кароў

32. Подпіс гаспадара

ДАДАТАК.

| Чарговы № | НАЗВА ПАСЕЛІШЧНАГА ПУНКТУ | На экой старонцы пачаты запіс двароў пункту | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | |

ДАДАТАК.

Назва паселішчнага пункту ..............................................

..............................................

..............................................

| Гады вучоту | Лік гаспадарак | Лік душ | | Колькі зямлі ў асобным карыстаньні двароў. | | | | | | | Зямель агульнага карыстаньня | Лік жывёлы | | Лік будынкаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Мужчын. | Жанчын | Сядзібы | Пахаці | Сенажаці | Інш. выгоднай | Усяго выгоднай | Нявыгоднай | УСЯГО | | Рабочых коней | Кароў | Жылых | Няжылых |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | | | | | | | | | | | |

### 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ВЫДАЧЫ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ АБ ПАДЗЕЛАХ ГАСПАДАРАК, ЯКІЯ ПАДЗЕЛЫ ЗРОБЛЕНЫ РАНЕЙ 7 ЧЭРВЕНЯ 1925 г.

*Раённым Выканаўчым Камітэтам БССР.*

Законам аб абавязковай ваеннай службе (ув. 4 да арт. 94) прадугледжана, што пры вызначэньні права на льготу па сямейна-маемаснаму стану прызываемых павінны прымацца пад увагу толькі такія падзелы працоўных гаспадарак, якія зроблены ня менш, чым за год раней тэрміну прызыву і зарэгістраваны ў сваім Раённым Выканаўчым Камітэце.

Пастановай-жа Савету Народных Камісараў БССР за 10 красавіка 1925 г. забаронены дабравольныя сямейныя падзелы і прыпынена іх рэгістрацыя Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі, прычым прызнаны законнымі ўсе фактычныя падзелы двароў, якія зроблены раней 7 чэрвеня таго-ж году, хоць бы яны і ня былі зарэгістраваны. Што-ж тычыцца судовых падзелаў па рашэньнях зямельных камісій, то яны дазваляюцца толькі ў выключных выпадках.

Для гэтага пры ўзбуджэньні прызываемымі на ваенную службу хадайніцтва аб зарэгістраваньні падзелу, які быў зроблены раней 7 чэрвеня 1925 г., належыць праверыць у кожным паасобным выпадку на месцы, ці ў сапраўднасьці двор падзяліўся раней 7 чэрвеня 1925 г. і з таго часу члены яго падзельна карыстаюцца зямлёй і будынкамі, і калі акалічнасьці гэтыя пацьвердзяцца, выдаць ад імя Раённага Выканаўчага Камітэту прызываемаму належнае пасьведчаньне. У ім трэба паказаць, што на падставе пастановы Савету Народных Камісараў рэгістрацыя сямейна-маемасных падзелаў сялянскіх двароў у БССР прыпынена.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР **Я. Лабаноўскі.**

17 сьнежня 1926 г.
№ 17.

---

### 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ АПЛАЦЕ ДНЁЎ АДПАЧЫНКУ, СЬВЯТОЧНЫХ ДНЁЎ І ЛЬГОТНЫХ ГАДЗІН.

У сувязі з выданьнем Народным Камісарыятам Працы СССР за 4/IX—1926 г. пастановы аб аплаце днёў адпачынку, сьвяточных днёў і льготных гадзін напярэдадні штотыднёвых днёў адпачынку і сьвяточных днёў („Известия НКТ СССР“ 1926 г. № 34) страціла сілу тлумачэньне НКП БССР за 30/XII—1925 г., аб аплаце работы ў асобныя дні адпачынку (Бюл. СНК БССР 1926 г. № 1 (10).

Прапануецца вышэйпаказаное тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 сьнежня 1925 году лічыць скасаваным і

па пытаньні аб аплаце працы ў нерабочыя дні і льготныя гадзіны кіравацца пастановаю Народнага Камісарыяту Працы СССР за 4 верасьня 1926 году.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **С. Алесін.**

Кіраўнік Спраў НКП **І. Акулаў.**

Узгоднена з ЦРПСБ: Нам. Заг. Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу ЦРПСБ **З. Каган.**

14 сьнежня 1926 г.
№ 18.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Сацыяльнае Забясьпекі БССР

### АБ НОРМАХ ПЭНСІЙ ІНВАЛІДАМ ВАЙНЫ І СЕМ'ЯМ ЗАБІТЫХ АБО БЯЗ ВЕДАМА ЗГІНУЎШЫХ ВАЙСКОЎЦАЎ.

*Акруговым Аддзелам Сацыяльнае Забясьпекі БССР.*

Накіроўваючы пры гэтым нормы пэнсій інвалідам вайны і сем'ям забітых, або бяз ведама згінуўшых вайскоўцаў, а таксама нормы дадатковых відаў дапамог на нараджэньне, кармленьне і пахаваньне дзяцей інвалідаў вайны і сем'яў вайскоўцаў на 1926/27 г., распрацаваныя Дзяржаўнай Плянавай Камісіяй пры СНК БССР і зацьверджаныя Саветам Народных Камісараў БССР (прат. № 81, за 18—22 кастрычніка 1926 году, арт. 1457 „Б“ „Выдаткі“, разьдзел VII, § 3), Народны Камісарыят Сацыяльнай Забясьпекі паведамляе, што гэтыя стаўкі і віды дапамог уведзены ў жыцьцё з 1 кастрычніка 1926 году.

Адначасова з гэтым, Народны Камісарыят Сацыяльнае Забясьпекі растлумачвае, што:

1) адначасовая дапамога на нараджэньне дзіцяці выдаецца па прадстаўленьню інвалідам, атрымліваючым пэнсію, афіцыйнага дакумэнту адпаведнай бальніцы або амбуляторыі аб тым, што жонка інваліда знаходзіцца на 9-м месяцы цяжарнасьці. Пры гэтым таксама павінны падавацца дакумэнты аб шлюбе, або іншыя, якімі магчыма было-б карыстацца пры вызначэньні права на атрыманьне дапамогі;

2) дапамога на кармленьне дзіцяці інваліда, атрымліваючага пэнсію, выдаецца кожны месяц сумесна з пэнсіяй у працягу 9 (дзевяці) месяцаў з дня нараджэньня дзіцяці, па прадстаўленьні выпісу ЗАГС'а аб нараджэньні дзіцяці.

Пры выдачы дапамогі, трэба ў працягу хоць 2—3-х месяцаў усімі маючыміся ў вас спосабамі правяраць, ці жыве дзіця, як шляхам патрабаваньня прадстаўленьня аб гэтым дакумэнтаў ад камэндантаў дамоў, або ад Камітэтаў Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, а ў іншых выпадках—усімі маючыміся ў распараджэньні спосабамі (дасьледаваньне);

3) дапамога на пахаваньне дзіцяці атрымліваючага пэнсію інваліда вайны, або сям'і забітага ці згінуўшага бяз ведама вайскоўца выдаецца па прадстаўленьню адпаведнага дакумэнту ўрача аб сьмерці дзіцяці, а ў іншых выпадках, калі гэта па тэхнічных прычынах зрабіць

нельга (сельскія мясцовасьці), то дапамога выдаецца пасьля пахаваньня, згодна адпаведнага выпісу аб сьмерці дзіцяці.

Дапамога непрацаздольным сем'ям чырвонаармейцаў вызначана ў норме 1925/26 г. году.

ДАДАТАК: 2 выпісы з пратаколу пасяджэньня Агульнай Сэкцыі Дзяржаўнае Плянавае Камісіі пры СНК БССР за 9/VII і 15/VII—1926 года і выпіска з пратаколу Пасяджэньня Савету Народных Камісараў БССР за 18—22 кастрычніка 1926 г. *) № 81, арт. 1457 „Б“, „Выдаткі“ разьдзел VII, § 3.

Народны Камісар Сацыяльнай
Забясьпекі БССР **П. Калінін.**

Загадчык Аддзелу Дзяржаўнае
Забясьпекі НКСЗ **Ф. Сымончык.**

Сэкратар Народнага Камісарыяту
Сацыяльнае Забясьпекі БССР **А. Каржуеў.**

25 сьнежня 1926 г.
№ 7300.

---

ДАДАТАК.

Норма ставак пэнсʼйі дадатковых відаў дапамог інвалідам вайны і сем'ям забітых на вайне або бяз ведама згнуўшых вайскоўцаў на 1926/27 бюдж. г.

## А. СТАЎКІ ПЭНСІІ.

| Назва груп забясьпечваемых. | Назва мясцовасьцяй: Гарады Менск і Віцебск р. | к. | Астатнія 8 акруговых гарадоў. р. | к. | Усе раённыя і сельскія мясцовасьці. р. | к. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I. Стаўкі пэнсіі інвалідам: | | | | | | |
| а) Інваліды I групы . . . | 20 | — | 18 | — | 16 | — |
| б) „ II „ . . . | 14 | — | 12 | — | 11 | — |
| в) „ III „ . . . | 10 | — | 9 | — | 8 | — |
| II. Стаўкі пэнсіі сем'ям забітых на вайне, альбо бяз ведама згінуўшых вайскоўцаў: | | | | | | |
| а) з 1-м членам сям'і . . . | 7 | — | 6 | — | 5 | — |
| б) „ 2-мя „ „ . . . | 10 | — | 9 | — | 8 | — |
| в) „ 3-мя „ „ і больш | 14 | — | 12 | — | 11 | — |

*] Дадатак у Бюлетэні ня друкуецца.

## Б. СТАЎКІ ДАДАТКОВЫХ ВІДАЎ ДАПАМОГ.

### Віды дапамог.

| Назва груп забясьпечваемых з ліку атрымліваючых пэнсію. | На нараджэньне дзіцяці. Колькі нараджэньняў прынята на кожныя 100 асоб, атрымліваючых пэнсію | На нараджэньне дзіцяці. Характар дапамогі. Адначасовы, даецца за 1 м-ц да радоў. Р. | К. | На кармленьне дзіцяці. Колькі кармленьняў прынята на кожн. 100 асоб, атрымлів. пэнсію. | На кармленьне дзіцяці. Характар дапамогі. Даецца ў працягу 9 месяцаў з дня нараджэньня дзіцяці. Р. | К. | На пахаваньне дзіцяці. Колькі пахаваньняў прынята на кожныя 100 асоб, атрымл. пэнс. | На пахаваньне дзіцяці. Характар дапамогі. Аднача-совы. Р. | К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а) Інваліды вайны. | 12,4 | 12 | — | 12,4 | 3 | — | 4 | 12 | — |
| б) сем'і забітых або бяз весьці згінуўшых на вайне. | — | — | — | — | — | — | 4 | 12 | — |

ПАДСТАВА: Пратакол пасяджэньня Агульнае Сэкцыі Дзяржаўнае Плянавае Камісіі пры СНК БССР за 9/VII—1926 г., зацьверджаны Саветам Народных Камісараў БССР (прат. № 81, арт. 1457 „Б“ „Выдаткі“, разьдзел VII, § 3, за 18—22 кастрычніка 1926 году).

Народны Камісар Сацыяльнае
Забясьпекі БССР **П. Калінін**.

Загадчык Аддзелу Дзяржаўнае
Забясьпекі НКСЗ **Ф. Сымончык**.

Сэкратар Народнага Камісарыяту
Сацыяльнае Забясьпекі БССР **А. Каржуеў**.

## 11. Аб праэкце водна-мэліарацыйнага кодэксу БССР.

Аграмадная колькасьць цякучых і стаячых вадаёмаў у БССР служыць для задаваленьня розных патрэбнасьцяй чалавека. Лішак вільгаці ў адных мясцох прыводзіць да стварэньня балот, а недахват вады у другіх выклікае неабходнасьць у штучных збудаваньнях для водазадаваленьня.

Воды знаходзяцца ў асобным правовым палажэньні параўнальна з зямлёй. Пэўны зямельны вучастак служыць для задаваленьня аднэй якой-небудзь патрэбнасьці, напрыклад, сядзіба—для забудоўкі, дарога—для задаваленьня патрэб транспарту, поле і луг—для вядзеньня сельскае гаспадаркі. Цякучы-ж вадаём можа адначасна быць скарыстан для задаваленьня featнастайных патрэб народнае гаспадаркі.

Рака служыць водапрыёмнікам для адводу лішняй воды з акружаючай яе глебы, скарыстоўваючыся такім чынам у інтарэсах сельскае гаспадаркі для асушкі балот і ператварэньня іх у культурныя ўдобʼі. Яна-ж можа быць адначасна скарыстана для перавозкі і сплаву цяжкіх грузаў, ня вытрымліваючых дарагога жалезна-дарожнага тарыфу, і ў гэтых адносінах мае аграмаднае значэньне для судаходзтва і сплаву. Сіла цякучай вады тэй-жа ракі скарыстоўваецца ў інтарэсах прамысловасьці для пабудаваньня на ёй электрастанцый, млыноў, лесапільных заводаў і іншых прадпрыемстваў. Нарэшце, яна-ж скарыстоўваецца ў інтарэсах рыбнага промыслу, а таксама для задаваленьня розных патрэбнасьцяй дамовае гаспадаркі.

Рознае скарыстаньне вадаёмаў прыводзіць да сутычкі розных інтарэсаў. Кожнае ведамства і кожны, наогул, водакарыстальнік імкнецца магчыма паўней задаволіць свае патрэбнасьці, ня лічачыся з інтарэсамі другіх, а таксама з патрэбамі народнае гаспадаркі. Усё гэта прыводзіць да неабходнасьці рэгуляваць водакарыстаньне пры дапамозе агульнага для ўсіх воднага закону.

Пагэтаму III-яя Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту VI-га склікаlarньня сваею пастановаю за 2 ліпеня 1926 г. прызнала сваячасвай распрацоўку асноў водна-мэліарацыйнага Кодэксу і перадачу яго на абмеркаваньне працоўным і даручыла Ураду распрацаваць праэкт кодэксу і ўнесьці яго на рязгляд аднэй з бліжэйшых Сэсій.

Па заданьню Ураду Народным Камісарыятам Земляробства распрацован праэкт водна-мэліарацыйнага кодэксу БССР. Ён будзе ўнесен на разгляд наступнай IV-ай Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту VI скліканьня, а ў цяперашні час рассылаецца на шырокае абмеркаваньне працоўных мас. Абмеркаваньне праэкту будзе адбывацца на агульных сходах членаў мэліарацыйных таварыстваў, на сялянскіх канфэрэнцыях, у сельскіх саветах, а таксама ў раённых, акруговых і цэнтральных савецкіх установах. Апроч таго праэкт кодэксу пасылаецца на водклік у навуковыя ўстановы, сельскагаспадарчыя навуковыя і вучэбныя ўстановы і зямельным органам саюзных рэспублік.

Такое шырокае прыцягненьне працоўных да абмеркаваньня праэкту водна-мэліарацыйнага кодэксу выклікаецца, з аднаго боку, важнасьцю пытаньня, а з другога—адсутнасьцю тэарэтычнай распрацоўкі права карыстаньня водамі. Воднае права, як навука, пакуль яшчэ ня існуе, бо няма воднага кодэксу ні ў РСФСР ні ў Украіне. Паміж тым неабходнасьць выданьня агульнага воднага закону прызнана была яшчэ асноўным законам аб сацыялізацыі зямлі (19 лютага 1918 г.), у арт. 5 каторага паказана, што „парадак карыстаньня водамі будзе вызначан асобным законам“.

Прэкт гэтага закону раней за другія саюзныя рэспублікі выпускае БССР, бо для яе правільнае вядзеньне воднае гаспадаркі мае выключнае значэньне. Каля 16% усёй яе плошчы забалочана. Асушка балот шляхам спушчаньня вады з іх у адрэгуляваныя рэкі і ператварэньне балот у культурныя ўдобʼі дае магчымасьць данадзяліць зямлёю сялян у колькасьці не меншай, чым гэта зроблена было ў выніку разьмеркаваньня непрацоўных зямель. Пагэтаму праэкт водна-мэліарацыйнага кодэксу высоўвае на першы плян інтарэсы сельскае гаспадаркі і ў прыватнасьці - мэліарацыю.

Кодэкс складаецца з 3 частак. Першая рэгулюе права карыстаньня водамі і прадстаўляе сабою водны кодэкс. Другая распрацоўвае пытаньні сельска-гаспадарчай мэліарацыі вод і зямель, зьяўляючыся мэліарацыйным кодэксам. Нарэшце, трэцяя частка вызначае структуру і кампэтэнцыю водна-мэліарацыйных тэхнічных, адміністрацыйных, судовых і рэгістрацыйных органаў.

У аснову праэкту водна-мэліарацыйнага кодэксу пакладзены наступныя прынцыпы: а) права ўласнасьці на воды належыць дзяржаве; б) злучнасьць усіх вод у рэспубліцы складае адну водную гаспадарку; в) воды зьяўляюцца абʼектам карыстаньня; г) карыстаньне водамі можа быць абмежавана ў інтарэсах грамадзкіх; д) пунктуальна вызначаюцца правы ўзьбярэжных землякарыстальнікаў на ваду, берагі і рэчышчы вадаёмаў; е) утрыманьне вадаёмаў у спраўнасьці ляжыць на абавязку водакарыстальнікаў; ж) ахова чыстаты вады складае абавязак усіх грамадзян; з) ствараюцца ўмовы, спрыяючыя правядзеньню мэліарацый.

Прынцып нацыяналізацыі вод апавешчан быў у нас Канстытуцыяй, зацьверджанай 4 лютага 1919 г. Першым Усебеларускім Зьездам Саветаў і затым пацьверджан быў 17 сьнежня 1920 году Другім Усебеларускім Зьездам Саветаў у пункце 10 яго рэзалюцыі па зямельнаму пытаньню. Ваданьне ўсімі водамі Зьезд даручыў зямельным органам, ствараючы такім чынам адзіную водную гаспадарку, якая знаходзіцца ў агульным кіраваньні Народнага Камісарыяту Земляробства.

Паасобным грамадзянам, іх абʼяднаньням, прадпрыемствам і ўстановам даецца права карыстаньня водамі. Характар карыстаньня зьмяняецца ў залежнасьці ад месца знаходжаньня вадаёмаў, велічыні яго і назначэньня.

Цалкам увходзячыя ў межы вызначанае гаспадаркі нязначныя вадаёмы—студні, сажалкі і крыніцы, знаходзяцца ў пераважным карыстаньні данае гаспадаркі. Скарыстаньне такога вадаёму суседзямі дапушчаецца на падставе згоды з гэтаю гаспадаркаю і толькі пры адсутнасьці у данай мясцовасьці вадаёмаў агульнага карыстаньня. Водаразбор рэгулюецца абавязковымі пастановамі выканаўчых камітэтаў.

Наступную катэгорыю прадстаўляюць грамадзкія вадаёмы—збудаваныя абʼяднаньнем паасобных гаспадарак—студні, сажалкі і вада-

праводы ў гарадох. За карыстаньне іх можа быць устаноўлена плата ў разьмеры, неабходным для ўтрыманьня вадаёму ў спраўнасьці.

Нарэшце, рэкі, вазёры і ручаі зьяўляюцца вадаёмамі агульнага для ўсіх карыстаньня. Плата за гэта карыстаньне не павінна спагаяцца. Можа быць устаноўлен толькі цэлявы збор. Віды водакарыстаньня могуць быць самымі рознастайнымі, пачынаючы ад карыстаньня вадаёмам для патрэб дамовае гаспадаркі, купаньня, забавы і канчаючы карыстаньнем ім ў інтарэсах судаходзтва, сплаву лесу, рыбнага промыслу і інш.

На рэках агульнага карыстаньня можа быць устаноўлена асобнае карыстаньне паасобных фізычных і юрыдычных асоб у мэтах пабудаваньня прамысловых прадпрыемстваў, працуючых сілаю руху вады.

Водакарыстаньне ў выпадку неабходнасьці можа быць абмежавана, а то і зусім спынена органамі ўрадавай улады з адплатаю, аднак, рабімага гэтым ушчэрбку водакарыстальнікам.

Для таго, каб водакарыстальнікі мелі магчымасьць ажыцьцявіць дадзенае ім права на ваду, па берагох вадаёмаў назначаецца паласа зямлі агульнага карыстаньня (бячоўнік) шырынёю ад 10 да 1 мэтра ў залежнасьці ад значэньня і велічыні вадаёму. Гэты бячоўнік могуць касіць і распахваць узьбярэжныя землякарыстальнікі, але нямаюць права патрабаваць узнагароды за патравы, рабімыя пры ажыцьцяўленьні агульнага водакарыстаньня.

Апроч бячоўнікаў, у праэкце кодэксу самым дакладным чынам вызначаюцца таксама правы ўзьбярэжных землякарыстальнікаў на берагі, дно і рэчышчы вадаёмаў пры іх высыханьні, а таксама пры зьмене імі свайго цячэньня.

Абавязкі па ўтрыманьню вадаёмаў у спраўнасьці, гарантуючай правільны сток вады, разьмяркоўваюцца паміж дзяржаваю і водакарыстальнікамі. Ахова-ж чыстаты вады складае абавязак усіх грамадзян.

Другая частка праэкту прадстаўляе сабой мэліарацыйны кодэкс. У ім зьмяшчаюцца правілы, палягчаючыя ўсякага роду мэліарацыі.

У гэтых мэтах дзяржаве даецца права на мэліарацыю ўсіх зямель, у чым-бы карыстаньні яны не знаходзіліся. Іншыя землякарыстальнікі могуць мэліараваць толькі адведзеныя ім землі.

Калі мэліарацыя дае выгаду такім землякарыстальнікам, каторыя непасрэдна ў ёй ня ўдзельнічаюць, то яны могуць быць прыцягнуты да адплаты адпаведнай часткі выдаткаў на мэліарацыйныя работы і павінны прапусьціць мэліарацыйныя збудаваньні (канавы) праз свае землякарыстаньні.

Усе выведы і складаньне праэктаў па сельска-гаспадарчых мэліарацыях праводзяцца толькі зямельнымі органамі, ажыцьцяўленьне-ж гэтых праэктаў прадастаўляецца і самім землякарыстальнікам.

Пакінутыя і няўдобныя землі могуць быць забраны з працоўнага карыстаньня для правядзеньня на іх мэліарацый, калі гэтыя палепшаньні ня робяцца самімі землякарыстальнікамі.

Мэліараваныя землі замацоўваюцца ў сталае працоўнае карыстаньне двароў, зрабіўшых мэліарацыю, а пры забраньні гэтых зямель для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб, а таксама пры землеўпарадкаваньні, землякарыстальнікам адплачваюцца выдаткі на мэліарацыю.

Гаспадарка, маючая максімальную норму зямлі, можа атрымаць яшчэ столькі-ж няўдобнай зямлі для правядзеньня на ёй мэліарацыі.

Кодэкс падрабязна вызначае парадак правядзеньня мэліарацый

ных спраў. Усе бясспрэчныя мэліарацыйныя праэкты зьвяртаюцца да выкананьня па зацьверджаньні іх водна-мэліарацыйным камітэтам, а справы спрэчныя—па разглядзе іх зямельнымі камісіямі.

Нарэшце, праэкт кодэксу ўстанаўляе неабходныя правілы для ўтрыманьня ў спраўнасьці мэліарацыйных збудаваньняў, вызначае ўмовы карыстаньня мэліарацыйным крэдытам і падрабязна распрацоўвае пытаньне аб арганізацыі, правох і абавязках мэліарацыйных таварыстваў.

Трэцяя частка кодэксу вызначае структуру водных органаў.

Складзены праэкт водна-мэліарацыйнага кодэксу, зьмяшчаючы ў сабе 428 артыкулаў, усебакова ахоплівае пытаньні водакарыстаньня і дае магчымасьць рэгуляваць паасобныя віды карыстаньня водамі ў інтарэсах народнае гаспадаркі.

Тыя водклікі, каторыя паступяць у выніку шырокага абмеркаваньня праэкту, дадуць магчымасьць унесьці ў яго неабходныя папраўленьні і направіць нямінучыя памылкі ў вялікай і зусім новай працы.

**А. Вішнеўскі.**

---

## 12. Клічаўскі раён Бабруйскае акругі.

*(Кароткі агляд стану раёну і дзейнасьці РВК за пэрыяд з 1-га сакавіка да 1-га кастрычніка 1926 году--паводле справаздачы РВК).*

Клічаўскі раён займае плошчу ў 1.138 кв. кіл.; усяе зямлі лічыцца 104.290 дзес. На тэрыторыі раёну знаходзіцца 222 населеных пункты, 5 587 двароў. Насяленьня ў раёне налічваецца 30.154 чал. Па нацыянальнаму складу насяленьне падзяляецца: беларусаў—87,75%, расейцаў—1,4%, палякаў—7,29%, яўрэяў—3,1% і іншых—0,41%.

Палітычнае становішча ў раёне здавальняючае. Адносіны беднякоў, серадняков, саматужнікаў і рабочых да савецкай улады—добрыя. Нездавальненьне наглядаецца з боку заможнага сялянства з прычыны правядзеньня абрэзак іх гаспадарак і палепшаньня дабрабыту беднаты.

З усіх злачынстваў у раёне большае месца займаюць лесапарушэньні, самагонакурэньне і інш. Быў выпадак бандытызму, які ў сучасны момант зьнішчаны.

Сельская гаспадарка. Зямельная плошча ў раёне (104.290 дзесяцін) складаецца з: 30 355 дзес. цераспалоснае зямлі ў вёсках, 3.914 дзес. пад пасёлкамі, 10.228 пад хутарамі, 1.112 дзес. займаюць савецкія калектыўныя гаспадаркі, 104 дзес. пад вучасткамі спэцыяльнага прызначэньня, 54.002 дзес. пад лясамі і 4.575 дзес. запаснага (незямляўпарадкаванага) фонду. Усіх гаспадарак, абрабляючых зямлю—5.475, з іх: бядняцкіх—2.478, серадняцкіх—2.806, заможных—188 і калектыўных – 3.

Жывёлаводзтва ў раёне з кожным годам павялічваецца. Так напрыклад, коней было: у 1924 г. – 4.728, у 1925 г. 6.637, а ў 1926 г. —6.844; кароў у 1924 г. было—9.582, у 1925 г.—9.946, а ў 1926 г. —11.272.

У галіне земляўпарадкаваньня ў раёне праведзены наступныя работы: за мінулыя гады земляўпарадкавана—12.742 дзес., земляўпарадкавана ў 1926 г.—408 двароў. З 1/X--1925 г. па 1/X-1926 году данадзе-

лена да мінімальнай нормы 32 безьзямельных двары і 2.087 малазямельных двароў. Усяго землеўпарадкавана на 1/X—1926 г. 17.435,72 гк.

У раёне працуе 3 агранамічныя працаўнікі. У галіне агранамічнае дапамогі насяленьню праведзена наступнае: пераведзена на штампольны зварот - 1.278,20 гэкт., ачышчана 24.148 п. насеньня і пратраўлена 4.000 п., арганізавана раённае насеннае таварыства, закладзена 52 паказальных вучасткі, з якіх 20 вучасткаў маюць добрыя вынікі, разьмеркавана мінэральнага ўгнаеньня паміж насяленьнем 700 пудоў. Садоўніцтва і гародніцтва ў раёне разьвіта мала, але здавальняюча.

Мэліярацыя ў раёне разьвіта слаба. Ёсьць тры мэліярацыйныя таварыствы, якія за адсутнасьцю сродкаў і працаўнікоў распадаюцца.

Агранамічным пэрсаналем праведзена трое сельска-гаспадарчых курсаў у вёсках, прачытана шмат лекцый і праведзена гутарак сярод насяленьня. На працягу з 1-га кастрычніка 1925 году па 15-га кастрычніка 1926 году ў раёне праведзены 2 сельска-гаспадарчыя выстаўкі, якія далі добрыя вынікі.

Культурных гаспадарак у раёне лічыцца 3.

У раёне таксама існуе 2 савецкія гаспадаркі з лікам рабочых у іх 53 чалавекі. У раёне таксама існуе адна сельска-гаспадарчая арцель з лікам членаў у ёй 13 чалавек. Праца ў арцелі наогул вядзецца слаба, што тлумачыцца адсутнасьцю належнага кіраўніцтва.

Усяго лесу ў раёне налічваецца 48.835 дзес. Перададзена ў лясы мясцовага значэньня 4.643 дзес. і ў запасны фонд 3.285 дзес. Лясьніцтвамі, якіх у раёне 2, праведзен месячнік загатоўкі апалу для насяленьня. Гэты месячнік прайшоў здавальняюча. Балючым месцам у раёне зьяўляецца недахват лесу для задаваленьня патрэб насяленьня. Пры раённым выканаўчым камітэце знаходзіцца камісія па ахове лясоў ад лясных парубак, але праца гэтай камісіі невыстарчальная. Прэзыдыумам РВК запрапанавана гэтай камісіі на працягу кастрычніка—сьнежня дасканальна праглядзець лясы мясцовага значэньня.

На працягу з 1/X—1925 г. па 1/X—1926 году ў зямельную судовую камісію паступіла 161 справа, з іх: разгледжана 129, засталося неразгледжанымі—32. Зямельная камісія на працягу году зрабіла 5-ць выездаў на месцы для разгляду спраў і правяла па вёсках 19 паказальных працэсаў.

П р а м ы с л о в а с ь ц ь. Прамысловасьць у раёне выключна саматужная. З прамысловых прадпрыемстваў большае месца займаюць млыны (4), цагельні (3), лесапілкі (2), адзін бровар і дзьве смалярні.

Усіх саматужнікаў у раёне лічыцца 271. Большае месца з іх займаюць шаўцы, краўцы, кавалі і інш.

Ф і н а н с ы. За тэрмін з 1 кастрычніка 1925 г. па 1 кастрычніка 1926 г. атрымана мясцовых сродкаў 154 885 рублёў, акруговых—14.333 р. і дзяржаўных - 84.196 р., а ўсяго 253.415 р., з іх: выдаткавана 242.321 р., засталося на 1 кастрычніка 1926 г. 11.093 р. Даходная частка бюджэту складала 102.735 р., з якіх ня выканана на працягу году 3.223 р. Выдаткаў па каштарысу было прадугледжана 102.735 р., з іх выканана 99.959 р. і засталося невыдаткаванымі 2.775 р.

Сельска-гаспадарчага падатку налічана 57.804 р., унесена на 15/X—1926 г. 13.230 р. Вынікі вучоту аб'ектаў абкладаньня ў параўнаньні з мінулым годам лепшыя. Выяўлена больш, як у мінулым годзе: ральлі - 921,68 дзес., кароў 1.069 шт. і коней 198 шт. Сельска-гаспадарчы падатак у параўнаньні з мінулым годам меншы. Льгот

па сельска-гаспадарчаму падатку дадзена на большую суму, як у мінулым годзе

Раённым выканаўчым камітэтам у 1925/26 бюджэтным годзе было атрымана 200 аблігацый 2-е Сялянскае Выйграшнае Пазыкі, з іх рэалізавана 160 аблігацый.

Страхоўкі ў 1925/26 годзе ў раёне было налічана 21.139 р., з іх паступіла на працягу году 16.289 р. Рэшту складаюць нядоімкі (2.504 р.), льготы бедняком, (1.976 р.) і інш. На працягу году страхавым агэнцтвам выплачана страхоўкі 47 дваром, пацярпэўшым ад пажару, на суму 5.010 р., ад паморку жывёлы 9.224 р. і ад граду 2.950 р., а ўсяго 17.184 р.

У раёне працуе адно крэдытнае таварыства з лікам пайшчыкаў у ім (на 1/X—1926 г.)—1082 чал. Большасьць пайшчыкаў складаюць беднякі і серадцякі. Таварыствам выдадзена кароткатэрміновага крэдыту на суму 36.954 р. і доўгатэрміновага 10.196 р. Пазыкі выдаваліся як калектыўным, так і аднаасабовым гаспадаркам і каапэрацыйным арганізацыям.

Усяго па раёну каапэравана 3.965 двароў, або 80%.

Каапэрацыя. У раёне існуе 4 спажывецкіх таварыствы з лікам пайшчыкаў у іх 2.663 (на 1/X—26 г.). Гэтым таварыствам адлічана фонду на каапэраваньне бедноты 699 р., каапэравана 345 асоб. Прыбытак таварыства на 1/X—1926 г. складае 11.379 руб.

Сельска-гаспадарчая каапэрацыя ў раёне разьвіта слаба. У раёне існуе толькі два таварыствы.

Прыватны гандаль у раёне мае невялікі размах. Усяго лічыцца 19 гандляроў, выбраўшых патэнты. Насяленьне больш звар чаецца да каапэрацыі, як да прыватных гандляроў.

Камунальная гаспадарка. Камунальных будынкаў у раёне лічыцца 24. У мінулым годзе пачата пабудоўка ў мястэчку Клічаве ўрачэбна-мэдыцынскага пункту, паказальная амбуляторыя (вэтэрынарная), а таксама вялася работа па сканчэньні будоўкі двох школ.

За сродкі акругі адрамантавана 13 мастоў на працягу 45 паг. саж. на суму 8.000 руб. За сродкі раёну адрамантавана 13 мастоў на суму 750 руб. Рамонт дарог сельскага значэньня праводзіўся вельмі слаба. На гэта мала зьвярталася ўвагі з боку камісій сельсаветаў.

Пажарная справа ў раёне знаходзіцца ня зусім у добрым стане. Усяго у раёне лічыцца 7 пажарных дружын, якія ня маюць сваіх коней.

Народная асьвета. Усяго ў раёне 37 школ, з іх: аднакамплектных—28, двухкамплектных—7, чатырохкамплектных—1, сямігодак—1. Па нацыянальнаму складу: беларускіх школ 33, расейскіх—1, яўрэйскіх—1 і польскіх—2. У 1925/26 годзе школы былі забясьпечаны падручнікамі на 80 проц. і пісьмовымі прыладамі на 75 проц. Дзяцей школьнага ўзросту лічыцца ў раёне 6.219. У мінулым навучальным годзе было 2.775 вучняў. 19 школ маюць свае памяшканьні, а рэшта 18 знаходзіцца ў наёмных будынках. На пабудоўку школ у мінулым годзе затрачана 12.000 руб.

З культурна-асьветных устаноў у раёне існуюць: 1 народны дом і 2 хаты-чытальні. Літаратураю і газэтамі гэтыя ўстановы забясьпечаны выстарчальна. Апрача гэтага ў раёне было арганізавана 29 пунктаў па ліквідацыі няпісьменнасьці, якімі ліквідавана няпісьменнасьць 311 асоб.

У раёне існуе Краязнаўчае Таварыства з лікам членаў ў ім 15

чал. Работа таварыства выяўлялася галоўным чынам у абсьледваньні Клічаўскага раёну, зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу і інш.

Ахова здароўя. Пры Раённым Выканаўчым Камітэце ёсьць раённы санітарны савет, а пры сельсаветах—санітарныя тройкі і санітарныя камісіі, але работа гэтых санітарных органаў праводзілася вельмі слаба. У раёне яшчэ ня зьнішчана знахарства. У гэтым напрамку вядзецца барацьба праз чытку лекцый і інш. На набыцьцё мэдыкамэнтаў у мінулым годзе выдаткавана з раённага бюджэту 1.268 р., але гэтых сродкаў не хапае для задаваленьня патрэб насяленьня. За кошт раённых сродкаў у вёсцы Паплавы арганізаваны дзіцячыя ясьлі ў часе летняй працы. У гэтых ясьлях знаходзілася ад 20 да 30 дзяцей, якія ўтрымліваліся за кошт дзяржаўных сродкаў. Гэтым мерапрыемствам насяленьне было вельмі здаволена.

Сацыяльнае забесьпячэньне. На ўтрыманьні сацыяльнае забясьпекі знаходзіцца 7 інвалідаў, якім выдаецца ў месяц 59 руб. На выдачу пэнсіі сем'ям чырвонаармейцаў выдаткавана з раённых сродкаў 65 р.

Усіх членаў у камітэтах сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі лічыцца 14.334. Камітэты маюць фонд: грашыма—906 р., збожжам—1.614 пудоў. У веданьні камітэтаў узаемадапамогі знаходзіцца 216 дзес. лясоў мясцовага значэньня. У часе пасеўных кампаній камітэтамі ўзаемадапамогі давалася дапамога насеньнем бяднейшаму насяленьню. Трэба адзначыць, што праца сельскіх камітэтаў узаемадапамогі праводзіцца дрэнна. Гэта тлумачыцца галоўным чынам пасыўнасьцю работнікаў камітэтаў.

Савецкае будаўніцтва. Раённы Выканаўчы Камітэт складаецца з 15 членаў. Пастаянна працуюць у прэзыдыуме 5 членаў, а рэшта працуюць у сельсаветах і раённых установах. З усіх пытаньняў на пасяджэньнях прэзыдыуму РВК большае месца займаюць гаспадарчыя пытаньні, адміністрацыйныя, грашовыя і іншыя. За справаздачны пэрыяд адбылося 7 пленумаў РВК, а таксама праведзена 7 нарад.

На тэрыторыі раёну працуе 13 сельсаветаў з лікам членаў у іх 150 чал., з іх: мужчын—148 і жанчын—2. Большасьць сельсаветаў працуюць здавальняюча. Распараджэньні РВК выконваюцца імі своечасова. Пры кожным сельсавеце існуюць камісіі, праца якіх праводзіцца ня зусім здавальняюча. Наглядаюцца выпадкі няўвязкі працы камісіі з прэзыдыумамі сельсаветаў. Работа камісій ў большасьці праводзіцца бяз пляну. Больш працаздольнымі зьяўляюцца: зямельная і культурна-санітарная камісіі. У працу камісіі яшчэ няпоўнасьцю ўцягнуты вясковы актыў. У дапамогу працы прэзыдыумаў сельсаветаў існуюць вясковыя выканаўцы.

Уся праца РВК праводзіцца паводле апрацаваных квартальных плянаў, якія выконваюцца ў большасьці поўнасьцю. Кіраўніцтва ўсім апаратам раёну праводзіцца агульнаю часткаю РВК. За справаздачны пэрыяд праведзена інструктаваньне і агляд працы ва ўсіх сельсаветах. Агульнаю часткаю таксама вядзецца нагляд за беларусізацыяй раённых установаў. Для праверкі вынікаў беларусізацыі ўтвор на камісія. Для падрыхтоўкі працаўнікоў раённых установаў былі арганізаваны беларускія курсы, на ўтрыманьне якіх затрачана 122 руб. Установы раёну, за выключэньнем мэдыцынска-вэтэрынарнага складу, вядуць працу на беларускай мове. Таксама дадзен наказ сельскім саветам аб пераходзе на беларускую мову з 1 кастрычніка гэтага году.

Ахова грамадзкага парадку. Склад раённай міліцыі—9

асоб. За пэрыяд з 1 студзеня па 15 кастрычніка г. г. з усіх злачынстваў большае месца займаюць лесапарушэньні, самагонакурэньне, кражы, а таксама быў адзін выпадак бандытызму, які цяпер зьнішчан. За гэты тэрмін спагнана штрафаў на суму 9.332 р.

У раёне існуе народны суд, якім разгледжана на 15/X—1926 г. 563 крымінальных спраў, 644 грамадзянскіх і засталося неразгледжанымі—160 крымінальных і 148 грамадзянскіх спраў. Юрыдычная дапамога насяленьню давалася праз правядзеньне сходаў сялян, на якіх рабіліся даклады па праўных пытаньнях, аб працы суду і г. д. Выкананьне рашэньняў судовых органаў праводзіцца невыстрачальна з прычыны таго, што судовыя выканаўцы ня прымаюць у гэтым актыўнага ўдзелу, а міліцыя ня можа справіцца. Перавыбары народных заседацеляў праведзены ня зусім здавальняюча, а таксама мала выбрана жанчын у народныя засядацелі.

20 сьнежня 1926 г. **А. М.**

---

## 13. З прычыны чаго невыстарчальна вэтэрынарная дапамога ў вёсцы і як яе ўзмацніць.

*(З вынікаў II-га Усебеларускага Вэтэрынарнага Зьезду).*

З 23 па 27 лістапада 1926 году ў гор. Магілёве адбываўся Усебеларускі Вэтэрынарны Зьезд, склікаНы Народным Камісарыятам Земляробства для прапрацоўкі розных пытаньняў вэтэрынарнага будаўніцтва і для ацэнкі зробленай работы. На яго прыехала шмат дэлегатаў з месц. Многія мясцовыя вэтэрынарныя арганізацыі прыслалі дэлегатаў болей, чым ім было прапанована прыслаць. Гэта зьявілася вельмі паказальным: на мясцох, значыцца, вельмі востра сузнаюць важнасьць вырашэньня пытаньняў вэтэрынарнага будаўніцтва. Гэта сузнае і цэнтр, у прыватнасьці Народны Камісарыят Земляробства, які зьвярнуў на Зьезд вялікую ўвагу.

Асаблівую ўвагу Зьезд зьвярнуў на яшчэ цяжкае становішча вэтэрынарнае справы, востры недахват вэтэрынарных урачоў і вэтэрынарных фэльчароў і разьвіцьцё розных хваробаў скаціны.

Праўда, у справе вэтэрынарнай дапамогі насяленьню мы дасягнулі за апошні год значных посьпехаў. З кожным годам, дзякуючы рашучай барацьбе, заразныя хваробы скаціны ўсё болей і болей скарачаюцца, а іншыя і сыходзяць на нішто. Вэтэрынарнавучастковая сетка пашырылася і акрыяла, сетка разьніц і забойных пунктаў таксама павялічалася і палепшылася іх праца.

Але калі значны нашы посьпехі, то яшчэ болей значны і нашы патрэбы. Заразныя хваробы да гэтага часу прадаўжаюць разбураць сялянскую гаспадарку, асабліва ў тых раёнах, дзе вэтэрынарны вучастак адлягае ад сяленьняў за дзесяткі вёрст і за дапамогаю зьвяртаюцца да варажбітоў ды да канавалаў, якія сваім няўмелым лячэньнем губяць скаціну, а нярэдка, па нявуцтву і дапамагаюць распаўсюджаньню заразы.

Колькасьць вэтэрынарных вучасткаў яшчэ невяліка. Таксама невялік і лік вэтэрынарных работнікаў. На ўсю тэрыторыю БССР прыходзіцца 54 вучастковых вэтэрынарных ўрачы і 149 пунктаў вэтэрынарных фэльчараў. Пры такой колькасьці вэтэрынарных урачоў на кожнага з іх прыходзіцца ў сярэднім да 65.000 адзінак буйнае скаціны. Паміж тым практыкай ўстаноўлена, што вэтэрынарны

вучастак можа як сьлед абслужыць патрэбы насяленьня ў тым выпадку, калі на аднаго вэтэрынарнага ўрача будзе прыходзіцца ня болей 5.000 адзінак буйнае скаціны, а самае адлаленае ад вучастка сяленьне будзе адлягаць не далей, чым на 10 вёрст, а не на 40—50 вёрст, як цяпер.

Вучасткі, якія маюцца ў нас, ва многіх выпадках далека ня так добра абстаўлены, як гэта трэба для правільнай вэтэрынарнай дапамогі насяленьню. З агульнага ліку 100 вэтэрынарных урачэбных вучасткаў толькі 30 маюць болей ці меней добра абсталяваныя вэтэрынарныя лячэбніцы. Іншыя-ж нярэдка ня маюць нават спэцыяльных памяшканьняў для прыёму хворае жывёлы. Прыём робіцца часта пад адкрытым небам або ў халодным хляве А вядома, як цяжка агледзець хворую жывёлу, калі холадна і цёмна. Вэтэрынарныя вучасткі нярэдка ня маюць неабходных інструмэнтаў і мэдыкамэнтаў. Замест неабходнага лякарства, вэтэрынарны ўрач вымушан часта даваць рэцэпт, з каторым селяніну прыходзіцца езьдзіць у аптэку падчас за 10 і болей вёрст. А работы вэтэрынарным работнікам шмат, —і ўздыхнуць, як гаворыцца, некалі. Зразумела, што яны не пасьпяваюць абслужваць усяго сялянства. Нямінуча адсюль—нездаваленьне некаторых сялян.

Тут трэба самім сялянам, а таксама і вясковым арганізацыям прыйсьці на дапамогу вэтэрынарным работнікам. Трэба стварыць здаровыя таварыскія ўмовы для іх работы. Трэба захоўваць іх сілы і не перагружваць іх.

## Што трэба зрабіць.

Патрэбы сялянскае гаспадаркі настойна патрабуюць далейшага ўмацаваньня і пашырэньня вэтэрынарна-вучастковай сеці; трэба будаваць новыя вэтэрынарныя лячэбніцы і ўзмацняць абсталяваньне тых, што ёсьць. Неабходна забясьпечыць кожны вэтэрынарны вучастак інструмэнтамі і мэдыкамэнтамі.

Далей, трэба зьвярнуць увагу на палепшаньне становішча разьніц і забойных пунктаў, на правільную пастаноўку вэтэрынарна-санітарнага нагляду на жалезна-дарожных і грунтавых шляхах зносін, ва ўстановах па перапрацоўцы прадуктаў жывёлагадоўлі, на рынках і кірмашох.

Трэба паклапаціцца аб сродках перасоўкі для вэтэрынарных работнікаў. Нярэдка адсутнасьць сродкаў перасоўкі пазбаўляе вэтэрынарных работнікаў магчымасьці ў пору аказаць сялянству патрэбную дапамогу. Неабходна таксама зьвярнуць увагу на павялічэньне заработнай платы вэтэрынарным работнікам, бо яна да гэтага часу яшчэ нізкая.

Усе пералічаныя мерапрыемствы ў значнай меры залежаць ад мясцовых савецкіх органаў, на ўтрыманьне якіх перайшла ў нас вэтэрынарна-вучастковая сець. Значыцца, ад мясцовых органаў улады, а таксама ад вясковых грамадзкіх арганізацый у значнай меры залежыць і правільная арганізацыя і далейшае разьвіцьцё вэтэрынарнае справы.

## Мясцовым Савецкім органам і самім сялянам трэба ўзяцца за вэтэрынарыю.

Усе вэтэрынарныя мерапрыёмствы неабходна рабіць пры непасрэдным і жывым удзеле мясцовых органаў улады і самых сялян. Самі сяляне павінны ўсямерна дапамагаць спыненьню хваробаў жы-

вёлы і палепшаньню вэтэрынарнае справы. Такім выпадкам, калі трупы паўшае жывёлы выкідаюцца куды папала, і гэтым самі сяляне сабе-ж на голаў нярэдка ствараюць прытулкі заразы на многія гады —такім выпадкам павінен быць пакладзен канец. Раённым Выканаўчым Камітэтам і Сельскім Саветам трэба паклапаціцца аб скацінных могальніках і аб правільнай уборцы трупаў паўшае жывёлы, а таксама наглядаць за правільным правядзеньнем барацьбы з хваробамі жывёлы. Ячэйкам сялянскай самадзейнасьці ў справе барацьбы з хваробамі скаціны павінны быць вэтэрынарна-санітарныя апекаваньні. Іх трэба найскарэй арганізаваць ва ўсіх сёлах і вёсках.

Каб лепей у вёсках праводзіліся меры аховы скаціны ад хваробаў, неабходна шырока распаўсюджваць сярод сялян веды па вэтэрынарыі, для чаго неабходна абсталяваць вэтэрынарныя куткі пры хатах-чытальнях, народных дамах, клюбах, папоўніць іх бібліятэкі папулярнай вэтэрынарнай літаратурай і арганізаваць пры ўдзеле вэтэрынарных работнікаў пры іх лекцыі і гутаркі па вэтэрынарыі. У гэтым—вялікі заклад посьпеху справы арганізацыі вэтэрынарнай дапамогі вёсцы.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**

---

## 14. Аб Сельскіх Рэвізійных Камісіях.

*(У парадку абгаварэньня).*

Узрастаючая дзейнасьць вясковых мас ня ўкладваецца ў рамкі існуючага палажэньня аб Сельскіх Рэвізійных Камісіях. Трэба адзначыць, што большасьць Сельскіх Рэвізійных Камісій наогул бязьдзейнічае. Аднэй з грунтоўных прычын зьяўляецца не заўсёды ўдалы падбор членаў Рэвізійных Камісій, а потым і агульная бязьдзейнасьць у грамадзкай працы. Апошняе зьяўляецца, нажаль, хваробай і іншых Камісій пры Сельсаветах. Нельга, аднак, ня прызнацца ў тым, што пры існуючым палажэньні аб Сельскіх Рэвізійных Камісіях, пры адсутнасьці сельскага бюджэту, Рэвізійныя Камісіі ня маюць усё-ж выстарчальнай падставы для працы. Часта пагэтаму на мясцох, там, дзе ў Рэвізійных Камісій ёсьць жаданьне працаваць, атрымліваецца гэткае зьявішча, што яны залазяць не ў свае функцыі. З вопыту Бабруйскай Акругі мне вядомы выпадкі, калі Сельскія Рэвізійныя Камісіі правяраюць і арганізацыйную дзейнасьць Сельскіх Саветаў, выкананьне імі рознага роду дырэктыў і г. д., іншымі словамі, у гэтых членаў Рэвізійнай Камісіі маецца жаданьне працаваць, аднак, яны не знаходзяць для сябе выстарчальнай падставы для свае працы. Сапраўды, уступная частка палажэньня аб Рэвізійных Камісіях пры Сельскіх і Местачковых Камісіях гаворыць, што Рэвізійныя Камісіі арганізоўваюцца „для ажыцьцяўленьня сапраўднага нагляду з боку шырокіх мас за правільным і мэтазгодным скарыстаньнем грашовых сродкаў і матар'яльных каштоўнасьцяй, якія знаходзяцца ў веданьні Сельскіх і Местачковых Саветаў“. Грашовых сродкаў пры сучасным палажэньні ў Сельскіх Саветах няма ніякіх (тым болей, калі ў БССР самаабкладаньне насельніцтва неўзаконена), што-ж тычыцца матар'яльных каштоўнасьцяй, то яны ізноў-жа па шмат якіх Саветах адсутнічаюць, маюцца, напрыклад, такія Сельсаветы, уся гаспадарка якіх абмяжоўваецца 2—3 пажарнымі бочкамі, школа-ж знаходзіцца ў чужым памяшканьні, бальніцы, фэльчарскага пункту таксама няма і г. д. Зусім зразумела, што пры такіх умовах

Рэвізійная Камісія пры Сельсавеце, калі ў склад яе ўваходзяць дзейныя члены, пачынае павялічваць, чыста навальна свае функцыі і залазіць і не ў сваю галіну працы. Калі падыходзіць чыста фармальна, то Раённым Выканаўчым Камітэтам у падобных выпадках належала-б адмяніць рэвізійныя акты Камісій, з адначасовым растлумачэньнем апошнім іх праў і абавязкаў. Раённыя Выканаўчыя Камітэты гэтага якраз часта і ня робяць, пры тым, як бывае часам, знарок. Адзін Старшыня Раённага Выканаўчага Камітэту нават тлумачыў, што ён знарок не даваў належнага тлумачэньня аднэй Рэвізійнай Камісіі, асьцерагаючыся, што падобнае тлумачэньне зусім адпіхне яе ад працы. Я пакуль з усёю катэгарычнасьцю гэтага пытаньня не вырашаю, але лічыў-бы мэтазгодным зьвярнуць увагу на падобнае становішча адпаведных органаў. Ці не паставіць сапраўдны ў парадку дня абмеркаваньне пытаньня аб пашырэньні функцый Рэвізійных Камісій пры Сельскіх і Местачковых Саветах, даўшы апошнім права нагляду за выкананьнем Сельскімі Саветамі пастаноў і дырэктыў вышэйстаячых органаў.

Пажадана ведаць думку па закранутаму пытаньню іншых працаўнікоў.

**С. Лібман.**

17 сьнежня 1926 г.
г. Бабруйск, АВК.

---

## 15. Аб тым, як трэба разумець некаторыя артыкулы інструкцыі аб выбарах у саветы.

Як паказаў вопыт падрыхтоўчае кампаніі па перавыбарах у Саветы ў бягучым годзе, ня ўсімі выбарчымі камісіямі аднолькава зразумелы арт. 32 п. „а“, увага да яго і арт. 34-ы пункты „а“ і „б“. Некаторыя, напрыклад, Раённыя Выбарчыя Камісіі на адбыўшымся Пленуме Бабруйскага Акруговага Выканаўчага Камітэту адзначалі, што па іх пагляду ўвага да пункту „а“ арт. 32-га, калі не знаходзіцца ў супярэчнасьці да грунтоўнага пункту (пункту „а“ арт. 32), то ў значнай меры зьмяняе яго сэнс. Іншыя-ж выбарчыя камісіі лічылі, што пункт „а“ арт. 32-га з увагамі да яго зьяўляецца просталішнім у інструкцыі і нічога не дае з прычыны таго, што ў інструкцыі ёсьць артыкул 34-ы, пункты „а“ і „б“, якія зьяўляюцца менш незразумелымі і болей канкрэтнымі для месц. Апошнія, напрыклад, тлумачылі так: пунктамі „а“ і „б“ арт. 34 прадугледжаны катэгорыі асоб, якія ня могуць быць, паводле зазначаных прыкмет, пазбаўлены выбарчых праў, а з гэтага як-бы выплывае і той адваротны вывад (у гэтым выпадку напэўна няправільны), што калі сялянская гаспадарка мае нязначнае ўхіленьне ад гэтых прыкмет—яна падлягае зараз-жа і безапэляцыйна аднясеньню ў сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых праў. Канкрэтна пунктамі „а“ і „б“ арт. 34 прадугледжана, што ня могуць быць пазбаўлены выбарчых праў: „а) сяляне-земляробы, якія ўжываюць у сваёй гаспадарцы наёмную працу аднаго пастаянага рабочага пры асобных акалічнасьцях, як: хвароба, мабілізацыя, выбар на грамадзкую пасаду, якая патрабуе адрыву ад гаспадаркі на ўвесь час такога становішча гаспадаркі і б) земляробы, якія наймаюць у часе галоўных летніх работ на кароткую пару ня больш 2-х чалавек для прыбіраньня збожжа і травы“.

Такім чынам, некаторыя выбарчыя камісіі тлумачаць, што калі ў гаспадарцы ёсьць сталы рабочы, то без такіх асобных прычын, як мабілізацыя, хвароба, выбарная пасада, такая гаспадарка падлягае чыста мэханічна пазбаўленьню выбарчых праў; таксама і ў адносінах

наёмных рабочых: калі ў гаспадарцы ў часе жніва былі тры сэзонных рабочых, то яна незалежна ад якога-б то ні было становішча, заносіцца ў сьпісы пазбаўленых выбарчых праў.

Пры такім падыходзе зусім зразумела, чаму паказаныя выбарчыя камісіі (якія няправільна тлумачаць закон) лічаць сапраўдным і выпадковым уключэньне па інструкцыі арт. 32-га п. „а" з увагамі да яго і чаму яны бачаць супярэчнасьць як паміж грунтоўным пунктам „а" арт. 32-га і ўвагай „а" да яго, так і паміж пунктам „а" арт. 32-га і пунктамі „а" і „б" арт. 34-га.

На мой погляд (і я ніяк не сумняваюся ў яго бясспрэчнасьці) гэтыя месцы інструкцыі трэба растлумачыць наступным чынам:

1. Увагу „а" да пункту „а" арт. 32-га ні ў якім выпадку нельга разглядаць, як знаходзячуюся ў супярэчнасьці або зьнішчаючую сэнс грунтоўнага пункту (пункту „а"), з прычыны таго, што паказаная ўвага „а" ня можа быць аддзелена ад наступнай за ёю другой увагі „б".

2. Пункт „а" арт. 32-га з увагамі да яго зьяўляецца вельмі патрэбным па інструкцыі і яго ніяк, пры правільным разьвязваньні пытаньня аб пазбаўленьні тае або іншае гаспадаркі выбарчых праў, ня можна абыйсьці.

3. Артыкул 34-ы, пункты „а" і „б", абараняе інтерэсы пралетарскіх мас, папярэджваючы магчымасьць пазбаўленьня выбарчых праў на мясцох відавочна працоўных катэгорый. Аднак, адсюль ніяк не магчыма, што калі-б тая або іншая гаспадарка мела малейшае ўхіленьне ад прадугледжаных паказанымі пунктаамі „а" і „б" прыкмет, каб ужо трэба было рабіць вывад, што гэта гаспадарка падлягае мэханічна пазбаўленьню выбарчых праў. Пункты „а" і „б" арт. 34 з аднаго боку, а пункт „а" арт. 32-га з увагамі да яго, з другога боку, зьяўляюцца пэўнымі межамі для выбарчых камісій, якія павінны падыходзіць пэрсанальна да кожнай у паасобку гаспадаркі, пры гэтым для аднясеньня гаспадаркі ў сьпісы асоб, маючых выбарчыя правы, зьяўляецца абавязковым наяўнасьць наступных двух прыкмет: а) у штодзеннай працы гаспадаркі прымаюць удзел усе працаздольныя члены сям'і і б) наемная праца зьяўляецца дапаможнай.

Пры адсутнасьці гэтых двух умоў гаспадарка ўжо бязумоўна падлягае пазбаўленьню выбарчых праў, бо тут ужо ўзята другая, гэтак кажучы, вышэйшая ступень падыходзячая ўплатную да тыпу кулацкай паўпрацоўнай гаспадаркі.

Калі-ж у гаспадарцы маецца хоць-бы адзін сталы рабочы, і апрача таго, яшчэ якое-небудзь прадпрыемства, то гэта гаспадарка належыць бязумоўна пазбаўленьню выбарчага права нават і пры умове поўнай адсутнасьці на прадпрыемстве спэцыяльна наёмнай сілы.

4. На мясцох выбарчыя камісіі павінны вельмі асьцярожна падыходзіць да ўсякага роду гаспадарак, якія ўжываюць у той або іншай ступені наёмную працу, маючы на ўвазе, што новая інструкцыя выдадзена ніяк на для пашырэньня кантынгэнту асоб, карыстаючыхся выбарчым правам, а, наадварот, да адбору сапраўды працоўнага элемэнту, які толькі адзін у праве выбіраць і быць выбраным у саветы, згодна Канстытуцыі.

27 сьнежня 1926 г
г. Бабруйск, АВК.

**С. Лібман.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**